Ніва
БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 31 (1170) ГОД XXIII БЕЛАСТОК, 30 ЛІПЕНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.



Дарогу ў Баброўку ацяняюць разгалістыя вербы.

Трывія вершы

*

Ты павіталася.
А я — усцешыўся,
Але хутка выпусціў з рук
Тваю далонь,
Не знайшоўшы на ёй
Сваёй
Дарогі жыцця.

*

Дамовіліся:
Не хвалявацца,
Не злавацца,
Не рэўнаваць,
Калі нехта з нас
Часам затрымаецца на працы
Або ў сяброў.

Мінае поўнач.
Першы раз адчуваю сябе
Так добра,
Толькі ніяк не знайду,
Куды ж ён прапаў, валідол.

*

— Буду вечна кахаць.
— Буду вечна чакаць.
— Буду вечна помніць...

Словы, якія могуць
Нічога не значыць
Для тых,
Каго кахаюць,
Каго чакаюць,
З кім развітваюцца.
І толькі знаюць
Іх сапраўдны цяжар тыя,
Хто кахае,
Хто чакае,
Хто яшчэ застаецца
Жыць.

**Максім Танк**

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# БАБРОЎКА

Не буду скрываць: у Баброўку трапіць не лёгка. У Чаромсе-станцыі пытайце людзей пра дарогу ў Зубачы, а там „ў Бобрівку", бо вёсачка гэтая знаходзіцца на самай ускраіне Польшчы — усходні канец яе вуліцы ўпіраецца ў дзяржаўную граніцу.

Калісьці гэты куток не быў такі глухі. Якраз сюдою, праз сярэдняе цячэнне ракі Пульвы, праходзіў старажытны надбужанскі шлях з-над берагоў Чорнага мора і Кіеўскай Русі ў Мазовію, Велікапольшчу, Яцвягію і да Балтыйскага мора. Потым тут ад яго адлучаўся іншы шлях, які ішоў з Бярэсця ў Бельск. На жаль, да сённяшняга дня ўсё яшчэ не даследавана, нават паверхнасна, дасканала захаванае гарадзішча на ўрочышчы Замчыска, што знаходзіцца ў вілах ракі Пульвы і ўпадаючай у яе рэчкі Пясочнай. Раскрыццё таямніц, што крыюцца ў ім і ў гарадзішчы каля суседніх Клюковічаў, напэўна паказала б зямлю над верхняй Пульвай у вельмі цікавым святле. Абодва гарадзішчы адносяцца да VII—XIII стагоддзяў. Ці гэта два сярод тых 231 гарадоў бужан, пра якія гаворыцца ў Баварскім Географе (VIII—XI ст.), і мелі яны ахоўваць густа заселенае і добра загаспадаранае Надбужжа ад нападаў яцвягаў, літоўцаў, ці пазнейшыя ўмацаванні з часоў панавання тут у XII—XIII ст.ст. галіцка-валынскіх уладароў: князя Рамана, караля Даніла, князёў Васілька, Уладзіміра, Юрыя — цяжка сказаць. Адно толькі пэўна: сотнямі веку на гэтых землях гаспадарылі продкі сённяшніх баброўчан: Алімпіюкоў, Баравікоў, Білемукоў, Бойчукаў, Высоцкіх, Гапанюкоў, Зінчукоў, Каплуноў, Карповічаў, Кузьмюкоў, Кульгаўчыкаў, Лягезаў, Лукашэвічаў, Мартынюкоў, Пагураў, Панасюкоў, Пугачоў, Пытэляў, Ражукоў, Янушчыкаў, Ермаловічаў, Юр-

(Працяг на стар. 5)



Зіна Міхальчук са сваімі гадаванцамі.

# У ЧАРЭЎКАХ НАД НАРВАЙ

У Чарэўках над Нарвай, над самай ракой, знаходзіцца аграмадная свінаводчая ферма дарожкаўскай спулдзельні прадукцыйнай. Яе кіраўнік **Мікалай Валесюк** кажа, што калісьці некаторыя з гэтых будынкаў прыналежалі мясцовай спулдзельні прадукцыйнай, якая разляцелася яшчэ ў 1956 годзе, і доўгі час стаялі яны зусім пустыя. Пасля гэтымі будынкамі зацікавілася нейкае птушкаводчае прадпрыемства ў Беластоку, якое рашыла гадаваць там качак.

Некалькі гадоў сядзела гэтае прадпрыемства ў Чарэўках і неяк нічога не атрымалася з яго высакародных намераў. Мерапрыемства аказалася нерэнтоўным і беластаччане пакінулі Чарэўкі.

Прыйшла чарга на прадукцыйную спулдзельню ў Дарожках. Гэта амаль па-суседску. Наступная вёска, усяго ледзь тры кіламетры шашой. У сябе на месцы, на ўласнай жывёлагадоўчай базе, дарожкаўцы пашыралі месца для гадоўлі малочных кароў, распачалі тады пабудову аграмаднага, па-сучаснаму абсталяванага кароўніка для 200 чорна-белых красуль. І таму свінагадоўлю рашылі перакінуць у іншае месца. Чарэўкі вельмі ім падыходзілі дзеля гэтага. Да справы ўзяліся па-свойму, як толькі ў Дарожках патрапяць.

— Рашылі мы, — кажа старшыня дарожкаўскай спулдзельні прадукцыйнай **Аляксандр Вішнеўскі**, — што патрэбна нам свінаферма на нейкіх **тры тысячы** штук свіней у год.

— Аж так многа? — не таю свайго здзіўлення.

— Калі прыступаеш да нейкай пабудовы, — спакойна паясняе старшыня, — дык трэба думаць не аб патрэбах сённяшняга дня, а перш за ўсё пра тое, што будзе патрэбна праз 10—20 і болей гадоў. То ж гэтыя будынкі і праз сто гадоў не разваляцца.

Чарэўкаўская свінагадоўчая ферма працуе ўжо трэці год. Калі паглядзець на яе з птушынага лёту, дык убачым некалькі даўжэзных, салідных будынкаў, уфармаваных на выгляд раўнабоч-

(Працяг на стар. 4)




### ЛІМАНАД З АЙСБЕРГА

Паведамленні пра дзёрзкія праекты буксіроўкі айсберга з Антарктыкі ва ўтульную сіднейскую гавань — адзін з бяспройгрышных сюжэтаў аўстралійскіх рэпарцёраў у перыяды газетнага штылю. Асаблівая цікавасць мясцовых жыхароў да гэтага тлумачыцца проста: Аўстралія — самы сухі кантынент планеты, і праблема крыніц прэснай вады стаіць тут асабліва востра. Разлікі вучоных паказваюць, аднак, што выкарыстаць „ледзяныя волаты“ ў блізкім будучым не ўдасца.

Тым не менш аўстралійскі мільянер Дзік Сміт вырашыў даказаць песімістам, што маючы грошы, можна абвергнуць любыя навуковыя разлікі.

Як паведаміла газета „Сідней морнінг геральд“, Сміт зафрахтаваў ледакол „Нела Дан“ водазмяшчэннем 2,5 тысячы тон для таго, каб адбуксіраваць з антарктычных вод „вялікі“ для пачатку айсберг размерам з чатырохпавярховы дом.

Як кожны прадпрыімлівы дзялок, Сміт хоча не толькі здзівіць свет, але і зарабіць. Удзельнічаць у „экспедыцыі века“ можа кожны, у каго знойдзецца тысяча долараў — такая цана білета і жаданне асабіста прыцягнуць айсберг да сіднейскага прычала.

Хаця прыкладна трэцяя частка айсберга, як мяркуюць, растане ў дарозе, рэшткі ледзяной глыбы Сміт збіраецца прадаць невялікімі партыямі фірмам, якія выпускаюць прахаладжальныя напіткі.

Н. К.

### СУМНАЯ СТАТЫСТЫКА

Больш як 13.000 чалавек загінулі і каля 355.000 — атрымалі раненні на дарогах Францыі ў мінулым годзе. Паводле даных міжміністэрскага камітэта дарожнай бяспекі, кіраванне аўтамашынай у стане ап'янення з'явілася прычынай 40 працэнтаў катастроф, у выніку якіх загінула 5.000 грамадзян.

### *У ГЭТЫМ ТЫДНІ*

**85 гадоў назад**

30 VII 1893 узнікла Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага.

**70 гадоў назад**

30 VII 1908 нар. Генрык Дэмбінскі, польскі публіцыст, удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.

30 VII 1908 нар. Юрка Лявонны (Л. Юркевіч), беларускі савецкі паэт.

5 VIII 1908 пам. В. Урублеўскі, дзеяч польскага і міжнароднага руху.

**25 гадоў назад**

31 VII 1953 пам. Корнэль Макушынскі, польскі паэт і празаік.

**10 гадоў назад**

3 VIII 1968 пам. Канстанцін Ракасоўскі, маршал СССР і Польшчы.

**Niwa**

BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY

ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE”
Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

ADRES REDAKCJI
Niwa
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 2-32-41

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 28 zł. 80 gr. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warczawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. nr 1636, 6.400 egz. N-4





**Помнікі зямлі беларускай.** Абеліск Свабоды, устаноўлены ў гарадскім парку г. Брэста ў гонар вызвалення беларускай зямлі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Карэспандэнцыя з Гродна

# ДВАЦЦАЦЬ УНУКАЎ БАБУЛЬКІ МІХАЛІНЫ

Перад новым годам бабулька Міхаліна атрымала ліст з Ленінграда. Акуратненька расхіліла канверт, прачытала некалькі радкоў і радасна ўскліқнула, звяртаючыся да дачкі:

— Чуеш, Ева, якая навіна?! У нашага Раманка нашчадак паявіўся.

Неўзабаве ў заўсёды ціхім доме Міхаліны Адамаўны Багдзевіч стала многалюдна. Даведаліся пра яе новага праўнука дачка з зяцем, што жывуць цераз вуліцу ў той жа вёсцы Краснае (Навадворскага сельсавета), прыбег унук — сямікласнік Язэпка, зайшлі суседзі. Сардэчна віншавалі гаспадыню. І яна, нягледзячы на свае восемдзесят чатыры гады, тупала разам з дочкамі на кухні, падавала на стол то крамяныя марынаваныя баравічкі, то налітыя сонцам яблыкі, шчасліва ўсміхалася і ўсё прыгаварвала:

— Не думала і не спадзявалася, што дачакаю трынаццатага праўнука.

Радасць прамянілася з яе амаль што не страціўшых колішняга блакіту вачэй, разыходзілася ад усяе невысокай рухавай постаці. І неяк асабліва хораша і ўтульна было гасцям каля яе. Наладзілася, паплыла ажыўленая гутарка.

— Вып'ем, Адамаўна, за ваш вялікі род, за найменшага праўнука, — падняў чарку сусед. — Няхай расце ён здаровым ды дужым, няхай стане такім жа добрым чалавекам, як яго прадзед Казімір.

— Шкада, што не дачакаўся наш бацька гэтага дня, — уздыхнула Тэрэза Казіміраўна, — але што ты зробіш, калі такі нялёгкі лёс яго спаткаў.

Для нікога ў вёсцы не таямніца, што Казімір Багдзевіч у васемнаццаць год служыў у царскай арміі, што ў 1917 годзе, змагаючыся ў Петраградзе за перамогу рэвалюцыі, быў цяжка паранены, потым доўгі час абараняў заваёвы Савецкай улады на службе ў міліцыі. Не стаяў збоку і ў часе Вялікай Айчыннай вайны, хоць ён ужо і быў старым чалавекам. Наладзіў сувязь з партызанамі, разам з жонкай памагаў ім, чым мог. Калі арганізаваўся калгас, ён уступіў адным з першых. І яшчэ доўга даваў прыклад моладзі сваёй улюбёнасцю да працы.

Ужо амаль тры гады, як не прыходзіць ён у школу ў самы ўрачысты дзень, калі малых акцябрат прымаюць у піянеры, каб завязаць ім чырвоныя гальштукі. І ў бабульчыным доме стала ціха, толькі ўлетку прыязджаюць да яе ўнукі і праўнукі, і тады дом ажыўляецца.

Бабулька Міхаліна нарадзіла і выгадавала васьмёра дзяцей. Пяць яе дачок вядомы ў саўгасе „Навадворскі“ як перадавыя працаўніцы. Ніхто не скажа благога слова і пра яе сына. Браніслава і Леакадзія жывуць і працуюць у Гродне. І хоць дзеці Міхаліны Адамаўны не могуць пахваліцца дыпломамі аб заканчэнні вышэйшых школ, затое не крыўдуе на іх зямля, якую яны абрабляюць. Ды і на заводах і фабрыках іх ведаюць і шануюць. Але галоўнае — сваіх дзяцей, бабульчыных унукаў, выхоўваюць на такіх жа працавітых.

Дваццаць унукаў і праўнукаў мае бабулька Міхаліна. І ў кожнага з іх — шчаслівы лёс. Старэйшы Іосіф Клачко вучыцца ў вайсковай акадэміі, а яго брат Раман — афіцэр Савецкай Арміі. Гэта ў яго сям'і нарадзіўся трынаццаты праўнук. Людміла закончыла Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію і працуе ва ўпраўленні сельскай гаспадаркай Воранаўскага раённага выканаўчага камітэта. Яніна — хімік-тэхнолаг Гродзенскага прамысловага аб'яднання „Азот“. У Гродзенскім раёне працуе настаўніцай Данута. Неўзабаве атрымае дыплом агранома яе сястра Гражына. Закончылі тэхнікумы Марыя, Анна і Галена, мае намер далей вучыцца пасля службы ў Савецкай Арміі і брат Леанід. Ён вярнуўся з войска на свой завод, будзе вучыцца на завочным аддзяленні. Галіна пасля заканчэння прафесіянальнай школы працуе на Гродзенскай абутковай фабрыцы. Іван і Валеры — шафёры ў саўгасе „Навадворскі“. Галя, Юрка і Юзік яшчэ вучацца ў сярэдняй школе.

— Калі б хто сказаў раней, — ажыўляецца бабулька Міхаліна, — што такі лёс будзе ў маіх унукаў, я не паверыла б. І настаўнікі свае, і афіцэры, і інжынеры. Вось толькі лекара яшчэ ніводнага няма.

— Будуць і лекары, толькі пачакай бабулька, — упэўніў яе малодшы ўнук Язэпка.

— А я вось журналістам стану. Ты ж чытала мае допісы ў раённай газеце?

— Чытала, унучак. Добра пра дзедку свайго напісаў ты. Калі вырасцеш, можа і пра мяне, старую, напішаш, — і яна ўсміхнулася, непрыкметна змахнуўшы светлую слязінку.

М. Шаўчэнак




**Будучыня (Супрасля) ў прыгажосці ◆ Піянеры Гродзеншчыны ў беластоцкіх гарцэраў ◆ Літаратурная старонка ◆ І так бывае ◆ З маёй званіцы ◆ Палоска дзядзькі Кваса ◆ Весткі з Заблудава, Вераб'ёў, Тафілаўцаў, Беластока, Кожына, Нарвы, Гайнаўкі, Кляшчэляў, Грыбоўшчыны-Старой, Леўкаў ◆ Калі сніцца чорная дзяўчына ◆ Кастусь у беластоцкім рэстаране ◆ З „Весніка Задрыпоніі“ ◆ Песня „Pozwól mi się pocałować”.**




**Sobota 29 VII** 9.00 Witajcie w Hawanie. 11.55 Program dnia. 12.00 Studio 8.

**Niedziela 30 VII** 7.05 Zajęcia wakacyjne (sem. III). 7.25 sem. V. 7.45 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Studio sport. 8.55 Program dnia. 9.00 Kino teleranka: Clown. 9.30 Antena. 9.55 Radar. 10.10 O płochliwej wydrze — ang. film dok. 11.00 Dziennik. 11.15 Rolnicze rozmowy. 11.40 Symfonia Leningradzka — widowisko muz. 12.45 Z kamerą wśród zwierząt. 13.15 Opowieści reporterów: Gdzie bogowie stworzyli Słońce. 13.45 W Starym Kinie: Bogumił Kobiela. 14.45 Losowanie Toto Lotka. 15.00 Blask wygasłych ognisk — odc. ser. ZSRR. 16.00 Kalejdoskop z Michaelem Hansonem. 16.40 Teatr Komedii. Brandon Thomas: Ciotka Karola. 18.00 Studio Sport. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Wieczór z dziennikiem. 20.30 Panie na Mogadorze — odc. ser. fr. 21.40 Festiwal Interwizji Sopot 77. 22.25—22.45 Studio Sport.

**Poniedziałek 31 VII** 14.35 Program dnia. 14.40 Marta — film fab. CSRS. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie TDC. 17.30 Dom i my. 17.45 Studio Sport. 18.15 Cena lekcji — odc. ser. „Doktor Ewa”. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Wieczór z dziennikiem. 20.30—23.35 Teatr TV na Świecie. William Szekspir: Antoniusz i Kleopatra. 22.00 Dziennik.

**Wtorek 1 VIII** 10.00 Panie na Mogadorze — odc. ser. fr. 14.00 Program dnia. 14.05 Telewizyjny Klub Seniora. 14.35 Trzpiotka — dramat obycz. ZSRR. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Studio Telewizji Młodych. 17.20 Polegli niepokonani. 17.35 Melodie. 17.55 Interstudio 128. 18.25 Powrót nad zatokę Wash — ang. film dok. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Wieczór z dziennikiem. 20.30 Życie i śmierć Penelopy — odc. ser. ang. 21.25 Świadkowie. 21.45 Teatr Małych Form. K. K. Baczyński: Śpiew z pożogi. 22.30—22.45 Dziennik.

**Środa 2 VIII** 14.15 Program dnia. 14.20 Rajdowcy — film fab. bułg. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Kino najmłodszych. 17.00 Nie tylko dla kobiet. 17.30 Losowanie małego lotka. 17.45 Ach te gwiazdy — film anim. USA. 18.10 Studio sport. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Wieczór z dziennikiem. 20.30 Yuriko moja miłość — film fab. radz. 22.05 Dziennik. 22.20—23.00 Twarze Teatru: Jerzy Stuhr.

**Czwartek 3 VIII** 9.00 Polski Dzień w Hawanie. 14.15 Program dnia. 14.20 Ciemna rzeka — film fab. pol. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie TDC. 17.30 Poligon. 17.55 Melodie. 18.20 Sonda. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Wieczór z dziennikiem. 20.30 Milczące akta — film fab. węg. 22.05 Pegaz. 22.50 Dziennik. 23.05—23.25 W minutę po premierze.

**Piątek 4 VIII** 15.00 Program dnia. 15.05 Virtuti Militari — film dok. pol., Krzyż Grunwaldu — film dok. pol. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie dla najmłodszych. 17.00 Klub dobrej roboty. 17.30 Wezwanie do radia Rugia — odc. ser. NRD. 18.35 Magazyn motoryzacyjny. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Wieczór z dziennikiem. 20.30 Gra o wszystko — film prod. TP. 21.40—23.30 Magazyn Studia Gama. 22.25 Dziennik.




**Piątek 28 VII** — 8.40 Spektakl. 10.00 Koncert laureatów konkursu im. Czajkowskiego. 15.10 Film fab. 18.15 Film fab. 20.30 Pr. estradowy.

**Sobota 29 VII** — 9.55 Film fab. 15.00 Sport. 15.35 W świecie zwierz. 16.35 Piosenka — 78. 18.15 Otwarcie Festiwalu w Hawanie. 20.30 Święto sportowe i koncert uczestników festiwalu w Hawanie.

**Niedziela 30 VII** — 10.00 Film fab. 13.15 Spektakl. 15.30 Panorama międzynar. 16.00 Klub film. 17.45 Koncert. 18.00 P. nożna. Dynamo (T) — Dynamo (M). 20.30 Koncert.




Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).




**Białowieża** Wilczym śladem — radz. 1—3.VIII. Szczególny dzień — wł. 3—4.VIII. Szarada — pol. 5—6.VIII.

**Bielsk Podl.** Ostatni film o Legii Cudzoziemskiej — USA 31.VII—1.VIII. Portret Schunkin — jap. 2—3.VIII. Rycerz i Los — radz. 4—5.VIII. Mężczyzna z białym goździkiem — szwedz. 6.VIII.

**Czyże** Doktor Mladen — jug. Koncert na patelnię i orkiestrę — NRD 2—6.VIII.

**Gródek** Zbieg — jug. 5—6.VIII.

**Hajnówka** Najdłuższa droga — jug. 31.VII—1.VIII. Mr Majestyk — USA 2—4.VIII. Ostatni beztroski miesiąc — czes. 5—6.VIII.

**Michałowo** Transamerican — USA 1—2.VIII. Miałem 19 lat — NRD 3—4.VIII. Na tropie Wilbyego — ang. 5—6.VIII.

**Mielnik** Porwanie — fr. 2.VIII. Powrót Robinhooda — ang. 5—6.VIII.

**Milejczyce** Akcja Salamandra — rum. Szczęście na smyczy — jug. 2—6.VIII.

**Narew** Avanti — USA. Zdjęcie próbne — pol. 2—6.VIII.

**Nurzec** Iwan Wasiljewicz zmienia zawód — radz. 2—3.VIII. Pojedynek — ang. 4—5.VIII. Flip i Flap w legii cudzoziemskiej — RFN 6.VIII.

**Orla** Przygody małpki Nuki — radz. Serpico — wł. 2—6.VIII.

**Rajsk** Wspaniały mężczyzna — buł. Pociąg w śniegu — jug. 2—6.VIII.

НАШЫЯ САМАДЗЕЙНІКІ

# „АРЭШКІ"




Пачаткова толькі спявалі. Было іх тады 6—7 асоб. Адны жанчыны. Ніхто тут нічога не засноўваў. Арганізаваліся самі па сабе, дзякуючы намовам Ніны Аверчук. Збіраліся і спявалі. Спявалі свае вясковыя песні. А каб не замыкалася гэта ў сваіх чатырох сценах, прымалі ўдзел у аглядах, што арганізуе Галоўнае праўленне БГКТ. Але аднойчы былы дырэктар дома культуры ў Гайнаўцы Альжбета Цаглярская папрасіла напісаць сцэнарый для аднаго з калектываў. Проста, каб застаўся ўзор. Тут ужо жанчыны былі, можна так сказаць, у віры справы. Чулі пульс гэтага жыцця. Але які ж сцэнарый? Найлепш нешта блізкае, звязанае са штодзённым жыццём, нешта народнае. У Янкі Крупы, які яго апрацоўваў, бліснула думка зрабіць „Вечарніцу", простую вясковую вечарніцу з кудзелямі, песнямі. Перанесці на сцэну кадр вясковага жыцця. Далі тут жанчынам вольную руку. Не былі яны звязаны тэкстам. Найважнейшае, каб не было гэта штучнае, каб веяла адпаведнай атмасферай. І зрабілі.

Потым пробавалі паставіць нешта кніжнае. Звярнуліся да п'ес Янкі Купалы. Але не было гэта так, як са сваім. І зноў вярнуліся да народнага. На сёлетні агляд драмгурткоў прыехалі з „Усяму вінаватая нявестка": ужо сам загаловак гаворыць, аб чым будзе рэч. Яшчэ толькі ўявіць вясковую хату, дадаць дыялагі на простай вясковай мове — і цудоўная камедыя. Так і было. Нават на хвіліну не дазвалялі вярнуцца ў рэчаіснасць. Адчувалася так, як бы сцэна не была сцэнай, а ты не ў зале, а сведка хатняй размовы паміж свякрухай і нявесткай.

Дзіўны і кароткі быў шлях узнікнення гэтай гумарэскі. Нарадзілася цікавая думка — зрабіць вясковае вяселле з усімі традыцыямі. Але не так усё гуртам, а падзяліць на часткі: допыты, заручыны і гэтак далей. Каб было гэта больш поўнае, больш вернае. І ўсё было б добра, каб не тое, што ў апошнюю хвіліну, на некалькі дзён перад аглядам драмгурткоў, не падвялі мужчыны. Ну, а як жа можа быць вяселле без маршалка і маладога? І Я. Крупа сумесна з Н. Аверчук і жанчынамі ўсё перарабілі. І так паявілася „Усяму вінаватая нявестка". Але ад ранейшай задумы не адмовіліся. А маршалак і малады, несумненна, знойдуцца. Жанчыны пакрысе пераканаюць.

Зараз у арэшкаўскім калектыве дванаццаць дзве жанчыны. Усе яны ахвотна збіраюцца, абдумоўваюць, плануюць. А трэба ўлічыць і тое, што на вёсцы працы шмат — то ў хаце, то ў агародзе, то ў полі. Тут не то, што па гадзінах. Цэлы дзень як завязаць. Але жанчыны неяк годзяць. Заўсёды знойдуць хвіліну вольнага часу. А калі не, дык іх крыху мужыкі ў працы заступяць.

Дзякуючы сваёй працы дабіліся яны высокага ўзроўню ў сваіх пастаноўках. Выязджаюць, бо запрашаюць іх на розныя ўрачыстасці. Добра ведаюць „Арэшкаў".

**Міхась Шаховіч**
Фота аўтара

# СКР у Нараўцы

Спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў у Нараўцы заснавалася ў жніўні 1975 года. Згуртоўвае яна 17 сельскагаспадарчых гурткоў з лікам 1130 членаў і 19 гурткоў вясковых гаспадыняў з лікам 540 членаў. Кааператыў вядзе звыш 500-гектаровую гаспадарку, у тым ліку мае 328 гектараў ворнай зямлі, 68 га сенажацяў і 48 га лесу. У мінулым годзе СКР прадаў дзяржаве 325 тон жыта, аўса і ячменю. Сабраў лубін з 40 га. Для адкормкі свіней прызапасіў 157 тон бульбы. Ён перавыканаў план продажу свіней, якіх гадуе на свінаферме (500 месц) у Ляшуках. У мінулым годзе даставіў на пункт скупкі 481 кормніка (звыш 50 тон мяса). Спулдзельцы гадуюць таксама каля 200 авечак у Масеве (тут якраз найбольш зялёных угоддзяў — да 40 гектараў).

Нараўчанскі СКР з кожным годам сваёй дзейнасці значныя сумы грошай адводзіць на пакупку сельскагаспадарчых машын. І так колькасць іх павялічваецца: у 1977 годзе ўзбагаціўся ён на 5 трактараў, 4 збожжавыя камбайны „Бізоны" (на іх цяпер вялікае запатрабаванне і таму нялёгка купіць), 13 касілак, у тым ліку тры ратацыйныя, 1 камбайн для капання бульбы, 2 малацілкі, 1 снопавязалку. У бягучым годзе машынны парк папоўняць 3 ратацыйныя касілкі, 2 снопавязалкі, 4 бульбакапалкі і 1 бульбяны камбайн. Вельмі патрэбны касілкі, паколькі ў гміне ёсць багата сенажацяў у далінах рэк Нарвы, Нараўкі і Баброўкі.

Дзеля лепшай арганізацыі паслуг для сялян-аднаасобнікаў было выбрана па адной асобе з кожнага сельскагаспадарчага гуртка, якім даверылі функцыю арганізатара паслуг. Яны прымаюць заказы на паслугі, абмяркоўваюць тэрміны выканання супольна з кіраўнікамі пунктаў механізацыйных паслуг (ПУМ) і ўстанаўліваюць чарговасць выканання, беручы пад увагу, каму з гаспадароў у бліжэйшы час неабходна дапамагчы. ПУМы арганізаваны ў трох вёсках: у Міклашэве, Семяноўцы і Ляўкове. Чацвёрты будзе заснаваны ў Нараўцы. У мінулым годзе найбольш паслуг зроблена пры падарыўках, уборцы збожжавых культур і пасеве мінеральных угнаенняў. Добра арганізавалі працу ў гэтым напрамку кіраўнікі ПУМаў: у Міклашэве — Аляксандр Трусевіч і ў Ляўкове — Ян Бірыцкі.

Кіраўніцтва СКР многа ўвагі прысвячае апошнім часам пабудове рамонтнай базы ў Нараўцы (дагэтуляшняя ў Семяноўцы не прыстасавана да спецыялістычных рамонтаў і не мае прыладаў і фахоўцаў, якім было б пад сілу рабіць больш складаныя рамонты) і паляпшэнню ўмоў працы на ПУМах. На пункце ў Ляўкове адрамантавана адміністрацыйнае памяшканне, падключана святло і тэлефон. Тут таксама пабудавана станцыя з гаручым для запраўкі трактараў і аўтамашын.

Рабочыя нараўчанскага СКРу (іх разам 104 асобы) у грамадскім пачыне пабудавалі 250-метровы адрэзак дарогі да тучарні ў Ляшуках і абгарадзілі яе. Таксама пабудавалі агароджы вакол ПУМаў у Ляўкове і Міклашэве.

Праўленне СКР многа дапамагае тутэйшым вясковым жанчынам. Па яго ініцыятыве ў мінулым годзе праходзілі заняткі ў рамках школ па грамадска-палітычнаму абучэнню жанчын у Міклашэве і Скупаве і сёлета — у Масеве і Ляшуках. Удзельнічала ў іх 120 асоб. Апрача таго, на працягу двух апошніх гадоў званне кваліфікаванага гаспадара здабыло 235 вяскоўцаў, у тым ліку 73 члены КГВ. СКР дапамог у пакупцы куранят і качанят. Вясковыя гаспадыні купілі іх звыш 20 тысяч штук. Найбольш з Міклашэва, Заблотчыны, Нараўкі, Стачка, Скупава, Альхоўкі і Ляшукоў.

Кіраўніцтва спулдзельні паклапацілася і пра абсталяванне двух пляцовак для дзіцячых гульняў у Семяноўцы і Нараўцы. (Прыдалася б яшчэ такая пляцоўка ў Ляўкове). Штогод уключаецца ў арганізацыю сезонных дзяцінцаў. Дапамагло арганізаваць экскурсію для членаў КГВ у Скупаве. Жанчыны пабачылі прыгожыя гарады і ваколіцы нашага Узбярэжжа.

**Я. Целушэцкі**

МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

# АДАМАЎСКІ

Нядаўна я пазнаёміўся з Мікалаем Валкавыцкім, якога, каб адрозніць ад другіх Мікалаеў Валкавыцкіх, у Белавежы называюць Адамаўскі. У яго проста „залатыя рукі". Аб сваіх самародных здольнасцях і аб сваім жыцці ён сам расказвае.

— З дзіцячых год цікавілі мяне многія тэхнічныя пытанні. Вось, напрыклад, як функцыянуе фотаапарат. Помню, —



працягвае ён, — як у аднаго жыхара Белавежы выпрасіў я, каб паказаў ён, як фотаапарат выглядае, як ім фатаграфуюць. Было гэта недзе ў 1932 годзе. Было мне тады 12 год. І ўжо тады зрабіў я фотаапарат, бо вельмі ж хацелася рабіць здымкі. Зразумела, быў ён вельмі прымітыўны. Шкляныя яго часткі зрабіў я з акуляраў, а павелічальнік — з банкі ад кансерваў. І ўжо такія-сякія здымкі я мог рабіць. Так стаў я фатографам-аматарам. Пасля меў фотаапарат для пяцімінутных здымкаў. Дарабіў да яго штатыў, і фатаграфаванне йшло на ўсю пару. А яшчэ пазней меў я для гэтай працы спецыяльнае памяшканне-майстэрню. Аднак аднаму цяжка было займацца і фатаграфаваннем і лабараторыяй. І спыніў я гэтую дзейнасць.

Працяг на стар. 4

ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# З ГОРДА ЎЗНЯТЫМ ЧАЛОМ

Ціхая вулачка ў атуленай лесам Супраслі. З ганку відаць, як сярод зялёнай навалы старых ліп і берастаў паблісквае беласценная вежа брамы колішняга манастыра. У пакойчыку з кафлёвай печкай, гонкай пальмай і скромненькай старадаўняй мэбляй кожная дробязь абласкана не ведаючымі стомы жаночымі рукамі. Са здымкаў на сцяне, стусу пажаўцелых фатаграфій, лістоў, запісак і іншых папераў на стале, з пукатай папкі ў тумбачцы вызірае адна з тых сцяжын, якія выпалі на долю беларускай народнай інтэлігенцыі Беласточчыны.

— Мая мама, Ганна Вішнеўская, была родам з Супраслі, а татка, Ігнат Матэйчук, паходзіў з суседняй вёскі Агароднічкі. Да слова, у артыкул Ю. Туронка „Забытая ліра Веры Мурашкі" ў „Ніве" ад 5 сакавіка 1978 года закралася памылка: маё дзявочае прозвішча не Матэйчык, а Матэйчук. І так, ведаеце, ужо склалася, што нарадзілася я ў



1896 годзе ў Супраслі, а дзяцінства і большая частка ўсяго майго жыцця звязаны з Агароднічкамі. Гэта ж там рэчка-балбатушка па лужку вілася, а на пагорках быў сасновы бор і ў ім крамяныя баравічкі восенню. Але цяпер пасля рачулкі астаўся меліярацыйны роў, а на месцы бору — бяздонныя ямы жвіроўні...

І раптам іскрынкі ў вачах Веры Ігнацьеўны Карчэўскай гаснуць.

Пасля народнага вучылішча ў Агароднічках штодня бегала яна з гурбою такіх жа падросткаў за сем вёрст у супрасльскую школу. Вучылася дасканала. Настаўнікі раілі ёй паступаць вучыцца далей. Але яна даведалася, што гэта будзе дорага каштаваць, што на гэта бацька павінен прадаць карову...

— Кароўку?! Як жа ж гэта? — ускліквае Вера Ігнацьеўна. — То ж у татка ўсяго адна кароўка, і конік адзін, і зямлі ўсяго акрайчык, а нас, дзяцей, дзесяцёра...

І замест сесці за школьную лаўку, давялося ёй пайсці „лапаць ніці" ў фабрыцы Цытрона. Хутка прывучылася фаху і пачала працаваць. Аднойчы жанчыны-работніцы забаставалі, патрабавалі лепшых умоваў працы і вышэйшых заробкаў. Вера не толькі прыняла ўдзел у забастоўцы, але нават стала на яе чале. Калі фабрыкант з'явіўся перад рабочымі, выгарнула яму ў вочы:

— Чаму гэта так: мы працуем ад ранку да вечара і галодныя ды халодныя, а вы нічога не робіце, гуляеце, і ўсё маеце? Гэта несправядліва, так не можа быць!

Таварышкі-работніцы хвалілі яе за баявое выступленне. Аднак знайшліся штрэйкбрэхеры, забастоўка правалілася, і Цытрон выгнаў Веру з работы. Маці плакала і дакарала дачку за неразважлівасць, але бацька яе падтрымаў:

— Маладзец, Верачка, што буржую сыпнула праўду ў вочы.

Пасля ўдалося ёй паступіць пакаёўкай да сям'і Ёгана Марушэўскага — немца, упраўляючага маёмасцямі супрасльскага фабрыканта Бухгольца. Хоць працы было многа і плацілі марна, але Вера была шчаслівая: яна паступіла экстэрнам у Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Днямі працавала, начамі вучылася, а калі наступаў час экзаменацыйнай сесіі, Ігнат Матэйчук запрагаў коніка ў вазок і вёз дачушку на Каралёў Мост, Гарадок, Ялоўку ў Свіслач. Два дні трэсліся па калдобінах, патаналі ў багне ці пяску, начавалі па чужых кутках, перакусвалі абы-чым. І было дзеля чаго: Вера заўсёды паспяхова здавала экзамены. Але калі ў 1914 г. выпеставаны ў марах дыплом настаўніцы быў ужо на руках, выбухла сусветная вайна; дастаць працу ў школе не ўдалося, прыйшлося сядзець без работы.

Потым, у 1917 годзе, былі курсы ў Свіслацкай беларускай настаўніцкай семінарыі і пасля два гады працы ў арганізаванай ёю самою школе ў вёсцы Грабавец каля Гайнаўкі. У 1919 годзе маладая настаўніца едзе на 4-месячныя вучыцельскія курсы ў Вільні.

Вера Ігнацьеўна просіць мяне зняць са сцяны вялікую, пажаўцеўшую ўжо памятную фотаграму настаўнікаў і слухачоў гэтых курсаў.

— Во, бачыце, — паказвае яна мне. — Гэта я, а там вось Туронак, бацька нашага Юркі Туронка...

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 3)

# АДАМАЎСКІ

Затым з братам Віктарам зрабілі мы драўляны веласіпед. Усё было з дрэва, у тым ліку і абады, купіўшы да якіх сталёвыя дроты, прымацавалі мы спіцы. Цяжка было ім ездзіць, але найважнейшае, што ездзіць можна было.

З Віктарам зрабілі мы даволі цікавую прыладу да драння з ляшчыны дранкаў, з якіх рабіліся каробкі і кошыкі. Пасля зноў з Віктарам рамантавалі мы гадзіннікі. З меднага тоненькага дроту рабілі мы волас, меркавалі, колькі даць звояў яго, каб была адпаведная гнуткасць. І гадзіннік такі далей працаваў, як новы. Многія гадзіннікі патрабавалі толькі новых вінцікаў. Але не было адкуль іх браць, дык мы старыя вінцікі адварочвалі другім бокам, і гадзіннік далей добра служыў.

Коля Адамаўскі выконваў шмат дакладных работ. Вось хаця б узяць выраб ім запальнічак, або зноў ігліцу для газніка. Але цяпер ужо ў яго так добра ўсё не выходзіць. Гады ўжо не тыя, і рукі не тыя, і здароўе слабее.

— Доўга я не пажыву, — гаворыць ён. — Да васьмідзесяці, мусіць, не дацягну. Тым больш, што нейкія няшчасці на мяне находзяць. Зацярпеў я болю нямала, — крыўдуе ён. — Аднойчы ехаў падпіўшы, ды ўпаў на бутэльку, якая была ў кішэні. Паламала мне яна два рабры, а сама не разбілася. Пасля зламаў я нагу. Была яна ў гіпсе. Але гіпс так мне дакучаў, што на 10-ы дзень я яго сам з нагі здзёр. Каля рэстарана „Сарэнка“ папаў я пад трактар. Трэснула тады грудзіна. І зноў хапіла болю.

Колю Адамаўскага ў 1943 годзе немцы вывезлі на работу пад Голдап. Калі тыя мясцовасці вызваліла Савецкая Армія, стаў ён яе салдатам. Баявы свой шлях закончыў на рэчцы Эльбе. І хаця не раз смерць была зусім пры ім, ён ведаў, што вернецца дамоў. А ведаў са сваіх сноў.

— Я веру ў сны. У іх многа праўды, — даказвае Коля Адамаўскі. — На фронце, калі ляжаў я ў акопе, прысніліся мне, што наша хата згарэла. Вярнуўшыся з вайны, я не ўбачыў сваёй хаты. Тырчала на пажарышчы толькі печ, такая самая асмаленая, якую бачыў я ўва сне.

Бацька мой, памятаю, адчуваў сябе яшчэ добра. Яму прыснілася, што злазіў ён са стога і неяк адразу сеў на белага каня. А калі сніцца белы конь, дык гэта паведамленне праз сон аб смерці. І бацька мой памёр заўчасна. Злазіў ён з вышкі і зваліўся на зямлю так няўдачна, што адбіў сабе ныркі і праз тыдзень дух аддаў. А калі мела мая мама памерці, прыснілася ёй, што спала яна з белым катом. Белы колер звязаны са смерцю, так як чорны з хваробаю.

Коля Адамаўскі зацягнуўся папяросай, уздыхнуў і далей працягваў расказ аб сваім жыцці і працы.

— Бацька наш працаваў на гаспадарцы і часта нам прыказваў: „Дзеці, трымайцеся зямлі, бо яна хлебам корміць. Не кідайцеся ў навукі, лепш у рамяство“! І так астаўся я ў Белавежы. Займаўся ўсім, чым толькі ў нас можна было займацца. Зараз жа пасля вайны я быў шаўцом. Сяляне забіралі мяне ў розныя вёскі, і я з іх матэрыялаў рабіў абутак. Быў я таксама цырульнікам. Падстрыгаў белавежцаў. І сам сябе я падстрыгаю. Толькі тады машынку стаўлю адваротным бокам. Шыў я таксама хамуты і цяпер часам займаюся рымарскімі работамі. Але найбольш цяпер маю работы з рамонтам мотавеласіпедаў і веласіпедаў.

У Белавежы вялікі попыт на разьбу па дрэве. Турысты ахвотна купляюць такія вырабы. Коля Адамаўскі таксама выробляў з дрэва фігуркі зуброў і конікаў. Адной з цікавейшых яго прац была разьба на 80-сантыметравай альховай дошцы, якая прадстаўляла аратага, яго прадзеда, які араў сахою. Другою большай працай была фігура, прадстаўляючая ні то чорта, ні то чалавека. Яе вельмі хутка купілі турысты.

— У 1948 годзе, — успамінае Адамаўскі, — узяў мяне да працы мяснік з Орлі. Працуючы ў масарні, я добра азнаёміўся з прадукцыяй мясных вырабаў. Там, у Орлі, я ажаніўся. Але жыццё з жонкай неяк не ўлажылася і пачалі жыць мы кожны ў сваёй мясцовасці.

І так жыве Адамаўскі адзін. Мае толькі ўласную хатку, у якой так прыгадзіліся б жаночыя рукі. Пасярэдзіне стаіць кафлёвая печка, якую сам ён зрабіў. У гэтай хатцы няма мэблі. Стаіць столік, стул, нешта падобнае на ложак, пад ім стаіць пастка на пацукоў. У кутку ручная сціральная машына, якую ён купіў па абніжанай цане і перарабіў яе на электрычны ток. Ды яшчэ ляжаць на лаве рыбацкія прылады яго вырабу. Раней была ў хаце скрыпка, на якой любіў ён іграць. Іграе таксама на баяне.

Коля Адамаўскі — чалавек неспатыканых здольнасцей. І шкада, што так марнее. Нічога не мае і аб нічым не дбае. Жыве адным днём. А ўсё гэта таму, што яму прысніўся той сон, які, паводле яго, гаворыць аб тым, што ён хутка памрэ.

— Не дбаю я аб сабе, — гаворыць ён. — Не брыюся і касцюма лепшага не апранаю. Нічога не гадую. Часам шкадую, што бесталкова прайшло маё жыццё.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**

---

М. ШАХОВІЧ

## З народных гаворак

**запуол** — падняты рукою канец фартуха або спадніцы, так каб можна было нечага насыпаць і несці. Так, прыкладна, насілі з агарода агуркі, з саду яблыкі ці нешта падобнае. Быў характэрны толькі жанчынам. Што ты такое нэсэш в запуолі? Трымай добрэ, а то яблыка з запуола сыплюцця. Возьмі кошык, бо колі ты запуолом іх пэрэносіш.

**коза** — адпаведна зроблены столак пад дзяжу. Былі гэта збітыя на крыж дзве вузкія, але даволі тоўстыя дошкі і асаджаныя на чатырох нагах. Внэсі козу, бо хлієб трэба рошчыніті. Ідэш ты з тэю козою чы ніэ?

**козлы** — прылада для рэзання дроў. Дзве моцныя крыжаўніцы, спалучаныя з сабой тоўстым дручком. Клалі на іх прызначанае на дровы дрэва, гэта аблягчала рэзанне, бо не трэба было трымаць. Прынэсі от сусіэда козлы, то лёкшэй рыэзаті будэ. З такімі козламі, положыв бэруоску, а воны і роз'ехаліся.

**кокуол** — тое сцябло зялёнай цыбулі, якое цвіце. Ну і цібуля в сіэтум році, самые кокуолы. Прынэсітэ мніэ кокуола з города.

**сопуха** — сажа, але тая, якая асядае па гаршчках, што стаялі на пліце на агні. Дэ ты так в сопуху вліэз? Одягла я ёго, а вуон так сопухою выбрудівся, што аш страх.

**трама** — паліца, зроблена на столі, канкрэтна гаворачы, прыбітая да бэлек дошка. Асабліва была яна ў старых хатах. Клалі там сыр, хлеб. Стань на стулець і здымі з трамы сыр.

*(Сакі, гм. Бельск)*

---



*Свінагадоўчая ферма дарожкаўскай спулдзельні прадукцыйнай.*

(Працяг са стар. 1)

## У Чарэўках над Нарвай

нага чатырохвугольніка, адкрытага ў напрамку вёскі і дбайна абведзенага драцяной агароджай. Між будынкамі пышліва расце сакавітая зялёная трава. Ані следу балота, ані адной саломінкі. Адным словам: п а р а д а к. І толькі лёгкі, такі характэрны пах гнаёўкі нагадвае аб уласцівым прызначэнні гэтых будынкаў.

Пры ўваходзе кіраўнік Мікалай Валесюк дбайна сочыць за тым, каб дакладна прамачыць боты ў спецыяльным дэзінфекцыйным рэчыве.

— Свіння, хутчэй за чалавека, — кажа ён, — паддаецца ўсялякім заразным хваробам, і таму не здзіўляйцеся, што мы аж так асцерагаемся.

Не здзіўляемся. Ферма ў Чарэўках, як гаварыў мне старшыня Вішнеўскі, ужо цяпер дае спулдзельні звыш мільёна злотых гадавога даходу. Пра такое багацце сапраўды трэба дбаць.

Апрача кіраўніка Валесюка, працуе тут яшчэ восем чалавек: Мар'я Гаўрылюк, Зіна Міхальчук, Зіна Валесюк, Мар'я Валесюк, Мар'я Кавальчук з мужам, Вера Аўсейчук і Рамуальда Вандалоўская. Усе яны мясцовыя, свае, чарэўкаўскія. Толькі Рамуальда Вандалоўская прывандравала сюды аж з-пад Высока-Мазавецкага.

— Прачыталі мы з мужам аб'яву ў газеце, — гаворыць яна, — што ў Дарожках даюць добраплатную працу і кватэру, дык прыехалі.

— І што, не шкадуеце свайго выбару? — цікаўлюся.

— А чаго ж нам шкадаваць? — здаецца, зусім шчыра адказвае яна. — Муж працуе трактарыстам, а я свіней кармлю. Жыць можна.

— А што вам дае праца на гэтай ферме? — звяртаюся я да чарэўкаўскіх жанчын, а яны глядзяць адна на другую.

— Я вам скажу, — адважылася Зіна Міхальчук. — Муж мой быў чыгуначнікам, працаваў у Страблі. І аднойчы не вярнуўся з работы. Папаў пад колы цягніка. Асталася я адна з дзецьмі. Без зямлі і без хлеба. Прызналі нам 1300 зл. рэнты. Вазьмі пражыві на такія грошы! А цяпер... цяпер магу я раўняцца з неадным чарэўкаўскім багацеем. Вось што дае мне праца на гэтай свінаферме.

Тут варта ведаць, што Зіна Міхальчук кожны дзень адна даглядае штук 250 кормнікаў. Як усе іншыя жанчыны, прыходзіць яна на ферму два разы ў дзень: раніцай і вечарам а 6 гадзіне. Трэба ў сваім адсеку прыбраць, пачысціць, памыць, развезці корм. Працу ўсюды аблягчае механізацыя.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

---

(Працяг са стар. 3)

# З ГОРДА ЎЗНЯТЫМ ЧАЛОМ

Адно за адным сыплюцца прозвішчы, дзесяткі прозвішчаў пачынальнікаў беларускай асветы на роднай мове.

— А гэта вось сам Максім Гарэцкі. Ён у нас выкладаў беларускую літаратуру. Надта ж цікава выкладаў. Любілі мы яго. Мы ўсіх іх любілі, нашых выкладчыкаў. А потым я паехала вучыць у вёску Карма, што на Міншчыне. Правучыла там год, і мяне перавялі на пасаду інструктара ў аддзел народнай асветы ў Мінск. Удзельнічала я ў мностве розных сходаў моладзі, інтэлігенцыі, рабочых. Гэта ж быў бурлівы 1920 год. Тады я пазнаёмілася з Леапольдам Родзевічам. Элегантны, энергічны чалавек. Неўзабаве пераехала ў Вільню і там, здаецца, упершыню сустрэлася з Ігнатам Дварчанінам, эрудытам і рамантыкам. Выйшла я замуж за Уладзіміра Маслоўскага, вільняніна. Польска-савецкая вайна знішчыла маё першае замужжаства: муж загінуў, а дачушка нарадзілася нежывая.

Цішыню ў пакойчыку парушае толькі шолах папераў у жвавых руках Веры Ігнацьеўны. З іх яна дабывае вялікую пажаўцелую фатаграфію.

— Але я не ўпала на духу. Вось, бачыце на гэтым здымку ўдзельнікаў канферэнцыі беларускіх рэвалюцыйных дзеячоў, што адбылася недзе ў 1922 годзе ў Празе ў Чэхаславакіі. Вось наш пасол С. Баран, удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі С. Жабінскі, хлопцы з ваколіц Белавежы — я іх прозвішчаў не памятаю — і іншыя, а з імі і я. У беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі на мне ляжала адказнасць за Беластоцкі, Брэсцкі і Сакольскі паветы. Каля Супраслі належала да БРА моладзь з вёсак Каракулі, Навадворцы, Цяснае. У Агароднічках сходы я часта праводзіла на сене ў нашай клуні. Аднойчы завітаў да нас з Беластока сувязны з нейкім сваім знаёмым. І потым аказалася, што гэты знаёмы быў шпікам з дэфензівы. Што ж, неўзабаве быў арышт і славуты працэс 45-ці ў Беластоку. Пасыпаліся цяжкія прысуды: С. Мацяевіча на пажыццёвае зняволенне, Я. Іванчука на 10 год, пасла С. Барана на 6 год, мая родная сястра Жэня і дваюрадны брат Косця Матэйчук атрымалі па 4 гады, а мне далі 6 год. За кратамі беластоцкай турмы я напісала многа вершаў. Вось адзін з іх:

Белавежская пушча
Болей не баіцца,
Паглядае гордым вокам,
Унукамі ганарыцца...

Моцным напеўным голасам яна чытае радкі, прысвечаныя яе таварышам па зброі, хлопцам-партызанам з-пад Белавежскай пушчы. А закрыўшы сшытак, працягвае руку і бярэ з ложка падушачку-ясік:

— Гафт на гэтай навалачцы я рабіла ў турме. Бачыце; на ёй постаць дзяўчыны-партызанкі з вінтоўкай у руцэ. Яна топча нагою змяю-зло. А матэрыял — гэта ж кужаль, вытканы нашай мамай, мамачкай. Яна штотыдня прыходзіла пад вароты турмы, прыносіла нам харчы. І не толькі нам з сястрою, карміла і маіх таварышаў, а мы ўсё прасілі таўканіцы і кіслай капусты. Цяжкая была яе доля.

Вера Ігнацьеўна чытае свой верш пра матулю. Што і казаць, не зайздросны лёс быў у гэтай беднай вясковай жанчыны: дзве дачкі ў турме, а сын Мікалай загінуў, ад куляў санацыйных пагранічнікаў, пры спробе перайсці граніцу ў Савецкі Саюз.

— Там, за кратамі, цераз грыпсы і прыбіральшчыцу завязалася ў мяне знаёмства з Уладзімірам Карчэўскім. Таксама настаўнікам і палітычным вязнем.

Яна знаходзіць здымак стройнага мужчыны з прыгожым, валявым тварам, паказвае па-майстэрску сплеценыя яго рукамі з конскага валосся бранзалетку і медальён. Браслетку закаханы настаўнік-вязень прыслаў сваёй любімай, а ў сярэдзіну медальёна ўплёў першы грыпс, які атрымаў ад Веры. Насіў гэты талісман на ўласных грудзях. Гэта было ўзнёслае цудоўнае пачуццё зняволеных рэвалюцыянераў-рамантыкаў. Нарадзілася і ўзмужнела яно за кратамі і стала той непахіснай апорай, што падтрымлівала іх і тады, калі яны выйшлі ў 1927 годзе з турмы, пажаніліся і... пайшлі на бяздольнае бадзянне. З працы ў гайнаўскай смалярні іх выгналі, бо забаставалі там рабочыя, і арганізатарамі гэтага выступлення палічылі Карчэўскіх.

Толькі пры савецкай уладзе, у 1939 годзе, яны змаглі вярнуцца да сваёй любімай настаўніцкай працы. Вучылі і ў Агароднічках. Але гэтае доўгімі гадамі вынашанае ў сэрцы шчасце не трывала доўга. Фашысты напалі на Савецкі Саюз, настала акупацыя, і ў ваеннай завірусе прапаў без вестак Уладзімір Карчэўскі. Пасля вызвалення Вера Ігнацьеўна нейкі час вучыла ў Агароднічках роднай беларускай мове. Калі банды рэакцыйнага падполля пачалі ёй пагражаць расправай, яна ў 1948 годзе выехала на Заходнія землі, у Жагань, і там працавала ў прадшколлі. Праз пяць год вярнулася ў Супрасль і сем год была біблятэкаркай. Цяпер яна пенсіянерка.

Стаім на ганку. Развітваемся. Дзьме непрыветны ў гэтым годзе, сыры і халодны, ліпеньскі вецер. Гляджу на адкрыты, з цёплай сардэчнай усмешкай твар Веры Ігнацьеўны і адчуваю на сабе тхненне тае прыроднай сілы і аптымізму, з якім прайшло жыццё яе пакалення, жыццё пакалення змагароў.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

(Працяг са стар. 1)

# БАБРОЎКА

чукоў. Назва вёскі і праплываючага каля яе ручая Бобрівка паказвае, што калісьці тут былі бабровыя жарэм'і і, відаць, жылі баброўнікі, а прыселка Турушчына — на нейкі след пра волатаў колішніх пушчаў — туроў. Шмат што можна вычытаць і з назваў палеткаў поля і лугу: Бытва (самі бабраўчане кажуць, што мусіла там быць нейкая ўзброеная сутычка, але слядоў пра яе не захавалася), Біелюга, Довгэ, Клінікі, Кутыэ, Лотокі, Надаткі, Подогульє, Пусткі, Тушэльня, Хусточкі, Ясеньске і навакольных лясоў: Боры, Загрэде, а таксама пагоркаў: Гора і Вышэва Гора (над рэчкаю Бродэць). Памяць пра колішні шлях з Бярэсця ў Бельск захавалася ў назве гэтай дарогі — „гостынэць“. Вёска была паншчынная, і належала, мабыць, уладальнікам двара ў суседніх Янцэвічах, а згадкі пра тыя часы захаваліся ў пераказе: „одно у сорочках хлопці бігалі, бэз ноговыць, до восемнацеці літ, коб на паншчыну нэ іты“. Пасля знясення прыгону ў вёсцы было 12 участкаў, але людзей прыбывала і мусілі яны жыць на сваіх пуўчастках, трытяках, чытвэртухах, пятухах, шыстухах. Вядома, з такога шнурочка ў „кучах“ (стойлах) у хлявах мала было жывінкі і хлеб на стале вельмі высока цаніўся. На заробкі хадзілі ў суседнія маёнткі, вазілі на продаж дровы ў Высокае, бо „ліса мілі мніго“. Кожнай працы ў гаспадарцы спадарожнічала багатая абрадавасць. Напрыклад, канчаючы жытняе жніво ставілі пры дарозе перапёлку („квітку“), дзяўчаты-жнейкі лапалі ды перакочвалі на іржышча хлапца, хапалі яго за ногі і „абворвалі“ ім тры разы навокал „квітку“. З таго часу захавалася памяць пра карчму, што стаяла ў канцы сяла: „Колысь чоловік украдэ, бывало, од бабы пуд жыта, занэсэ корчмарові і п'е гарнцём горылку“.

Трагічна ўпісаўся ў гісторыю Баброўкі час гітлераўскай акупацыі. Адразу пасля свайго прыходу фашысты расстралялі старшыню сельсавета Сцяпана Алексеюка і дэпутатаў сельсавета Міхала Білемука, Сымона Байчука. У вёску часта наведваліся савецкія партызаны. Бабраўчане дапамагалі ім жыўнасцю, вопраткай, весткамі пра фашыстаў. І вось аднойчы Андрэй Пытэль нешта рабіў у полі, падышло да яго некалькі чалавек, сказалі, што яны — савецкія партызаны, папрасілі паказаць ім дарогу. А. Пытэль абрадаваўся, не толькі паказаў дарогу, але запрасіў іх у сваю хату, накарміў і напаіў. Аказалася, што гэта былі пераапранутыя за партызан здраднікі. Праз некалькі гадзін прымчаўся атрад фашысцкіх карнікаў, арыштаваў А. Пытэля і расстраляў яго каля Высокага.

Ужо пры народнай уладзе з Баброўкі выйшла шэраг заслужаных людзей, як вядомы дзеяч Сяргей Шульжык у беластоцкіх „Ухвытах“, Аляксей Карповіч у Моньках, Міхал Варабей у Бельску, а таксама настаўніца Ірына Такаюк, аграномы: Надзея Баравік, Ірына Карповіч, некалькі медсясцёр, механікаў і іншых працаўнікоў народнай гаспадаркі.

І ў Баброўцы прыбывае сялян, што здалі гаспадаркі за пенсію, павялічваецца і колькасць хатаў з вокнамі і дзвярыма, забітымі „на крыж“ дошкамі. Але гэты працэс тут не такі пашыраны. Яшчэ каля паўсотні гаспадарак моцныя і жывучыя. Сярод іх узорнай для ўсяе вёскі і ваколіцы з'яўляецца гаспадарка Іларыёна Алексеюка — сына расстралянага фашыстамі старшыні сельсавета С. Алексеюка. Ён дасканалы гадоўца: мае 7 штук дойных кароў, ужо ў гэтым годзе прадаў дзяржаве 12 кормнікаў, заўсёды збірае высокія ўраджаі збожжа, бульбы, многа сена. Знаходзіць ён таксама час і на актыўную грамадскую дзейнасць у сваім сяле і ў гміне.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

## ФАЛЬКЛОР

### ЖАРТОЎНАЯ




*Сіем городы заложыла,*
*сіем городы заложыла —*
*одна дыня уродыла,*
*гуляю я, да гуляю я!*
*Сіем городы — одна дыня,*
*така з мэнэ господыня,*
*гуляю я, да гуляю я!*
*Повэзла я продаваты,*
*повэзла я продаваты,*
*то й нэ знала, што казаты,*
*гуляю я, да гуляю я!*
*Покуль людэ цэну далі,*
*покуль людэ цэну далі,*
*то й цыгане дыню ўкралі,*
*гуляю я, да гуляю я!*
*Вы, цыгане, добры людэ,*
*вы, цыгане, добры людэ,*
*што жэ тэпэр за то будэ?*
*Гуляю я, да гуляю я!*
*У городы дыні в'ютсе,*
*у городы дыні в'ютсе,*
*а за мэнэ хлопці б'ютсе,*
*гуляю я, да гуляю я!*
*Воны б'ютсе — нэма жартоў,*
*воны б'ютсе — нэма жартоў,*
*бо хороша, акуратна,*
*гуляю я, да гуляю я!*

Ад Анны Парфенюк, 1923 г. нараджэння, Веры Кошаль, 1927 г. нараджэння, Таццяны Гурын, 1937 г. нараджэння, і Надзеі Грушэўскай, 1942 г. нараджэння, вёска Арэшкава гм. Гайнаўка, запісаў М. Гайдук, ноты — Л. Панько.

## Кажуць, што...

**Чаромхаўская пошта і чыгуначная станцыя іграюць з сабою ў глухія тэлефоны. Калі б не хацеў пазваніць чыгуначным тэлефонам на пошту, ён заўсёды маўчыць, як зачараваны. І як тут гаварыць аб супрацоўніцтве двух паслуговых прадпрыемстваў?**

**(ус)**



*У святочны дзень на вуліцы.*

## ПАЛОСКА ДЗЯДЗЬКІ КВАСА

# ДА АДУКАВАНЫХ

Дурная мода „сучаснага“ вершаскладання, як кожная мода, аджыве свой час і знікне, пакінуўшы брудны след у літаратуры нашага часу. Бо гэта ж ненармальная з'ява, гэта шантаж слабакоў, выхапнёў, амбітнікаў, якія, чуючы сваю бязраднасць, якім сапраўдная паэзія не па зубах, а ахвота паказацца ў паэтычным свеце вялікая, адважыліся напляваць на яе і, звёўшы паэзію да абсурду, пачуліся геніямі. У сапраўднасці кожны з іх прадстаўляе Моську з байкі Крылова, якая, нягледзячы на сваю мізэрнасць, брахала на слана (знать она сильна, коль брешет на слона).

А найдзіўнейшае тое, што гэтае моднае, пустагаловае вершаскладанне падтрымлівае „Беларускі Парнас“ у Народнай Польшчы. Нават вядучы нашай паэзіі, Алесь Барскі, практыкуе ў гэтым стылі. Сімпатыкам яго аказаўся і Мікалай Гайдук, які, каб не было замала „наватарскай“ плыні, пастараўся ў Каляндар пераклясці і вершы з польскай мовы. Праўда, верш, прысвечаны Грыгорыю Кунавіну, вельмі патрэбны ў Календары. Але пераклад!? Немагчыма, каб Гайдук не ведаў перакладу Пушкіна са старажытнага летапісу сказання аб князю Кіеўскай Русі Алегу. Ці ж не варта было, як ужо ўзяўся, па-Пушкінску, з блытанай яшбуршчыны стварыць „Песню ў памяць Грыгорыя Кунавіна“. Бо Пушкінскую „Песню“ я, кончыўшы сваю навуку дзесяцігадовым хлапчуком, запамятаў на ўсё жыццё. А чытаў яе ўсяго некалькі разоў. А каб запамятаць пераклад М. Гайдука, то давялося б не расставацца з Календаром увесь год, як тэрцыярка з кантычкай. Гэтага ад М. Гайдука я не спадзяваўся. Калі ў мінуўшчыне прачытаў у „Ніве“ яго дэбютавы верш, падумаў: ну, мае родная Беласточчына свайго Ясеніна. Аказалася, моцна памыліўся. Яшбуршчына заваявала яго таксама, як і маладых.

Хто з вас, адукаваных „Беларускага Парнаса“ ўяўляе, што вы гэтай „наватарскай“ плыннію паставілі паэзію на згубны шлях, на які ўцягваецца і губляе свой талент падрастаючая моладзь?

(Працяг на стар. 7)

## Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА VI

**Якуб Колас і „Наша ніва“.** Колас, як і многія іншыя беларускія пісьменнікі пачатку XX стагоддзя, у сур'ёзнай ступені заўдзячвае сваю літаратурную кар'еру тыднёвіку „Наша ніва“. Быў ён, зразумела, не толькі адбіральнікам ідэй гэтага тыднёвіка, але і іх стваральнікам.

Пісьменнік звязаўся з „Нашай доляй“ і „Нашай нівай“ ужо ў момант заснавання гэтых часопісаў.

А. Уласаў успамінае (Якуб Колас, „Наша ніва“, Калоссе, 1936, № 5 (9): „Ехаў я — раней, чым тое дзеялася — у трэцяй класе. Раптам увальваецца лапцяватая грамада беларусаў з Нёмана. Загналі плыты ў Коўну, едуць назад на Нёмане, каб ізноў гнаць дрэва. Мяне тады распірала, як кажуць цяпер, ад агітацыі: разгаварыўся скора, чытаў вершы Мацея Бурачка. Тады не было яшчэ ні Купалы, ні Коласа! Плытнікі з вёскі Мікалаеўшчына. Гэта вёска не толькі „рачных ваўкоў“, але і вучыцелёў народных, як Валожын — рабінаў. Мне гавораць: „А ў нас адзін настаўнік „смешна“ чытае па-нашаму“! Праз нейкі час быў з'езд вучыцелёў на дачы на Камароўцы. На гэтым з'ездзе я спытаўся: „Хто тут з вас з Мікалаеўшчыны беларускія вершы фабрыкуець?“ Выходзіць лабаценькі з чорнай маладзенькай бародкай. Від у яго быў не саўсім забіты семінарнай трэфарэтнай вучобай. Я павёў гэтае жэмчужнае зерне да Леаніда Канстанцінаўскага. Ветлівыя гаспадары, шыкарная вячэра. Мой вучыцель разварушыўся.

...хлопец пераабразіўся, вочы яго ззялі, твар адухатварыўся. Мілагучныя рыфмы спявалі ў яго. Мы ўсё зразумелі, што перад намі ўзыходзячая зорка беларускай паэзіі“.

Сустрэча Якуба Коласа з будучым рэдактарам „Нашай долі“ і „Нашай нівы“ мела велізарнае творчае значэнне. Мела яна характар стымула, які дэтэрмінаваў развіццё творчасці паэта. Момант гэты знайшоў адназначнае асвятленне ў „Аўтабіяграфічных матэрыялах“ Коласа:

„Осенью 1908 года на одном революционном съезде в Минске я познакомился с Александром Никитичем Власовым. К этому времени в Вильне народилась группа лиц, постановившая издавать газету на белорусском языке. Власов как-то дознался обо мне как о белорусском поэте и приехал, чтобы разыскать меня. Разумеется, с великой радостью согласился я вступить в сотрудники „Нашей доли“. Вернувшись домой, я принялся с жаром за стихи. Написал „Наш родны край“ и подписался — Якуб Колос. Этот псевдоним и сообщил Власову в день своего знакомства с ним. Мое стихотворение было напечатано в первом номере „Нашей доли“. В газете „Минский листок“ была рецензия на I № газеты. В рецензии отмечено и мое стихотворение, как отличающееся „особой красотой и звучностью“. Выход в свет белорусской газеты был величайшим происшествием в моей жизни“.

У гадах 1906—1915 Колас апублікаваў на старонках „Нашай долі“ і „Нашай нівы“ каля сарака навел і апавяданняў і каля 130 вершаў або фрагментаў паэмы. Найменшы вершаваны твор паэта складаўся з васьмі радкоў, найбольшы налічваў больш чым трыста радкоў.

У 1906 годзе быў канфіскаваны трэці нумар „Нашай долі“ з прычыны змяшчэння ў ім верша Коласа „Беларусам“, а ў 1907 годзе не дайшоў да рук чытачоў дзевяты нумар „Нашай нівы“, бо цэнзар Кімерлінг дашукаўся ў вершы Коласа „Расейские образы“ ідэй, накіраваных супраць дзяржавы і права. Верш Коласа сапраўды быў накіраваны супраць разгула царскай паліцыі. Праўдападобна, быў ён напісаны пад уплывам верша Лермантава „Прощай, немытая Россия“:

„Куды ні глянь, адно і тое,
Усюды стрэльбы і „шнуры“,
Стаяць па двое і па трое
На скрыжаваннях каўняры.
Аж у вачах яны мігцяцца,
Усюды іх, як прусакоў...
Куды пайсці і дзе схавацца
Ад гэтых рыл і каўняроў.“

## Сардэчныя тайны

Сэрцайка, ужо даўно я думала, ці не напісаць да цябе, і ўрэшце рашылася. Нарадзілася і выгадавалася я на вёсцы. Тут жа навучылася я шыць, і людзі кажуць, што добрая з мяне краўчыха. Гаспадарка ў нас была малая, і бацька ўвесь час ездзіў на работу ў горад. Нядаўна купіў там дом, і мы пераехалі жыць у горад, а гаспадарку бацька прадаў. Усе мы цешыліся, што будзем у горадзе жыць, прызнаюся, што і я таксама. Ужо год амаль, як мы гараджанамі сталі, а мне штораз больш сумна за вёскай, за родная хатай, хаця не было там такіх выгод, як мы маем цяпер. А яшчэ мяне цягне туды і тое, што там жыве хлопец, з якім я сябравала. Мы кожны вечар з ім бачыліся. Спачатку ён і часценька прыязджаў сюды да мяне, а цяпер дык рэдка, толькі пісьмо час ад часу прышле. Кажа, што часу няма, работы шмат. Ён трактарыстам працуе. І я б нічога не хацела, каб быць там, на вёсцы, разам з ім. Я маю тут сябровак, працую на швейным прадпрыемстве, але ўсё сумна на душы, не магу прывыкнуць. Мо, каб была я на вёсцы, дык і пажаніліся б мы, бо мой хлопец не мае намеру пакідаць вёску, а так, бадай, гэты горад нас і разлучыць. А як ты, Сэрцайка, думаеш?

**Марылька з Б.**

Марылька, калі хлопец цябе кахае, горад не стане яму перашкодай. Здаецца, што гаснуць яго пачуцці да цябе. І на гэта ўжо няма рады. А мо і не — час выясніць канчаткова. А калі і так, дык не падай духам. Хлопцаў у горадзе шмат, і да жыцця гарадскога таксама з часам прывыкнеш.

**Сэрцайка**




Фота-рэтра

*Беластоцкі вакзал у першую сусветную вайну. Рэпрадукцыя А. Здрадоўскага.*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Муж і жонка не жывуць разам ужо тры гады. Муж за ашчаднасці, якія ён мае з сваіх заробкаў, хоча купіць сабе нерухомую маёмасць і пабудаваць дом. Каб жонка не прэтэндавала на гэту маёмасць, ён згаджаецца пакінуць жонцы ўсю маёмасць, якая была набыта ў часе, калі яны жылі разам. Жонка згаджаецца на гэта. У якой форме яны павінны заключыць умову, каб пазбегчы ў будучыні ўзаемных прэтэнзій?

АДКАЗ: Умова, на аснове якой муж зракаўся б права на маёмасць, што была набыта ў часе супольнага жыцця, у замен за адрачэнне жонкі ад маёмасці, якую муж набыў пасля таго, як яны разышліся, была б умовай аб падзеле супольнай маёмасці. Незалежна ад таго, ці муж і жонка жывуць разам, ці асобна, пакуль звязвае іх шлюб, маёмасць, якую набывае кожны з іх, з'яўляецца супольнай маёмасцю і падзелена ў гэтым часе не можа быць. Таму кожная ўмова аб падзеле маёмасці ў гэткіх абставінах была б няважнай. Калі муж і жонка не намераны супольна жыць і не падаюць на развод, або суд адмовіў ім у разводзе, могуць яны патрабаваць у судзе адмены маёмаснай супольнасці. Пасля гэтага яны могуць падзяліць маёмасць дабравольна, або праз суд.

## Вер-не-вер

Дарагі Астроне, прашу цябе, каб ты мой сон надрукаваў у „Ніве" і напісаў, што ён абазначае. Сніцца мне, што я сяджу з хлопцам і з сяброўкай на беразе возера. На двары лета, а мы з ёй адзеты па-зімоваму ў паліто і валёнкі. Праз некаторы час мы пайшлі ў школу, але ісці нам было вельмі цяжка, бо перашкаджалі валёнкі і паліто. З вялікімі цяжкасцямі мы зайшлі ў свой клас. Там было вельмі многа хлопцаў з другога класа. Я іх усіх павыганяла. Падыходжу да сваёй парты, сядзіць на ёй мая сяброўка з хлопцам, які ёй падабаецца. Я пачала на яго крычаць, чаму ён сеў на маю парту. Затым мы пісалі дыктоўку. Я прасіла, каб Аля дала мне спісаць, яна мне дала, а сама не напісала. Я зняла валёнкі і паставіла каля сябе, той хлопец кінуў у іх мячом і адзін валёнак вылецеў за акно... Той хлопец, што сядзеў са мною каля возера, палез праз акно за маім валёнкам.

Загадзя дзякую табе, Астроне!

Барбара з В.

**Барбара з В!** Ты будзеш мець нейкія затрудненні ў дасягненні поспехаў (аб гэтым сведчыць цяжкая вопратка ўлетку, якая перашкаджала табе ісці ў школу). Нейкі сябра з дзіцячых гадоў будзе імкнуцца перашкодзіць табе ў поспехах (хлопец кінуў мячом у валёнкі і адзін з іх вылецеў за акно). Знойдзецца нехта іншы, хто дапаможа табе ў гэтым (другі ж хлопец палез за валёнкам). Аб радасці, якая цябе чакае, сведчыць месца акцыі — школа.

**Астрон**

### БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

*Багаты грошы збірае, а чорт машыну рыхтуе.*

*Белыя рукі работы баяцца.*

*Благая зямелька лепей добрага пана.*



## Куток практычных ведаў




### МОДА НА „ЦЫБУЛЮ"

Як бачыце, мода апранацца „цыбулькаю", або, як кажуць іншыя, „капустаю", распаўсюдзілася і на дзіцячую вопратку. Дзяўчынкі, якіх вы бачыце на здымку, апрануты ў модныя сарафанікі і блузачкі, а з-пад аднаго сарафаніка выглядае хвальбана. Можа гэта быць проста хвальбана, прышытая знізу, можа гэта быць шырокая спаднічка, апранутая пад верхні, больш вузкі сарафан, а можа быць і проста ніз цэлай сукенкі, на якую можна апрануць сарафанік.

Сарафанікі дзяўчынак у дробную клетку (фасон іх выразна відаць на здымку). Адна блузачка ў палосачку, а другая — аднатонная, але з далікатнай вышыўкай.

Заўважце: у руках дзяўчынкі трымаюць модныя сумкі ў форме карзінак.

**Сяброўка**

## Мала, але цікава

# П'ЯЎКІ Ў ДЖУНГЛЯХ

П'яўкі ў нашым уяўленні — насельнікі рэк, сажалак і азёраў. У цэнтральных жа і горных раёнах вострава Шры Ланка, дзе паветра вызначаецца павышанай вільготнасцю, сустракаюцца дзіўныя сухапутныя п'яўкі.

Невялікія, даўжынёй два-тры з палавінай сантыметры і тонкія, быццам запалка, гэтыя істоты, прытаіўшыся на дрэвах, у кустах або траве, цярпліва чакаюць сваю ахвяру — чалавека або цеплакроўную жывёліну. Непрыкметныя для вачэй, з гнуткім, эластычным целам п'яўкі накідваюцца на чалавека, прабіраюцца пад адзенне, як бы шчыльна яно не было надзета. А прысмоктваючыся, наносяць маленькія, спачатку не адчувальныя раны, якія вельмі хутка пачынаюць пячы і кроватачыць.

Для абароны ад гэтых істот, як у старадаўні час, выкарыстоўваецца сок лімона, а таксама створаныя нядаўна хімічныя рэчывы — рэпеленты.

## Тайны другой сусветнай вайны




### МАКНЭЛІ БЯРЭЦЦА ЗА СПРАВУ

Апошнія дні вайны...

Праходзячы ўсё далей у глыб „Альпійскай крэпасці", амерыканцы атрымлівалі нямала паведамленняў ад аўстрыйскага насельніцтва аб таямнічых аперацыях гітлераўцаў у раёне возера Топліц. Амерыканскія афіцэры пачалі праяўляць цікаўнасць да падводнага сейфа нацыстаў. Праз некалькі гадзін пасля таго, як ваеннаслужачыя вермахта і эсэсаўцы кінулі ў возера апошнія скрыні, камандзір спецыяльнай каманды амерыканскай арміі пастукаў у дзверы жыхара горнай вёскі Ханеса Шчёкля. Потым той расказваў: „Не праходзіць і дзвюх гадзін, як з'яўляюцца сюды „амі", перадавы атрад, і вось ужо кэптэн іхні — ён па-нямецку размаўляе — ветліва выклікае мяне з дому і просіць паказаць яму месца, дзе адбывалася гэта мітусня са скрынямі. Тут жа пад рукой у яго і вадалазы, і лодкі надзіманыя, і плыты. Ды нядоўга заставаліся хлопцы пад вадой: там, унізе, расказвалі яны, зусім, як у джунглях, суцэльная блытаніна — ствалы дрэў ляжаць уздоўж і ўпоперак, апускацца далей небяспечна для жыцця, таму што плаваюць яны на палавіннай глыбіні, і возера гэта нібы з двайным дном. Тут афіцэр дае ўсёй справе адбой: маўляў, вернуцца сюды потым з сапраўднымі маракамі і марской вадалазнай маёмасцю. Толькі з таго часу не бачыў я тут больш ніводнага „амі", затое неўзабаве з'явілася тут англійская сакрэтная служба: хацела разгадаць гэту чартаўшчыну са скрынямі, але да дна так і не дабралася".

Факт застаецца фактам: тэхнічна выдатна аснашчаная 2-я вадалазная група ваенна-марскога флоту ЗША адмовілася ад спробы раскрыць тайну возера Топліц, пасля таго, як яно стала халоднай магілай аднаму амерыканскаму вадалазу. Такім чынам падводны сейф СД, аказалася, і сапраўды немагчыма адчыніць.

Але тут у галоўнае камандаванне англа-амерыканскіх сіл у Франкфурце-на-Майне паступіла трывожнае данясенне. Афіцэр амерыканскай разведкі паведаміў па радыё, што знайшоў нямецкі ваенны грузавік, даверху застаўлены скрынямі з пачкамі фунтаў стэрлінгаў на шматмільённую суму.

Гэта паведамленне падняло на ногі маёра Джорджа Макнэлі. Ён лічыўся адным з самых удалых спецыялістаў амерыканскай сакрэтнай службы па барацьбе з падробкай грашовых знакаў. Макнэлі паімчаўся ў Аўстрыю, у раён Аўсзэе, каб на месцы як трэба разглядзець тое, што знаходзіцца ў 25 скрынях, знойдзеных у грузавіку. Скрыні разламалі, адтуль пасыпаліся пачкі англійскіх банкнот. Іх падлічылі: сума аказалася ўнушальная — 21 мільён фунтаў стэрлінгаў!

Ледзь паспелі амерыканцы паведаміць аб знаходцы сваім англійскім саюзнікам, як з Лондана паспешліва прыбылі прадстаўнік Лонданскага банка і трое лепшых дэтэктываў Скотланд-Ярда.

Так англа-амерыканскія вышукныя органы напалі на след „аперацыі „Бернхард". Група экспертаў, якая складалася з прадстаўнікоў абедзвюх разведак, неадкладна пачала пошук эсэсаўскіх фальшываманетчыкаў. Гэтаму ўсімі сіламі дапамагалі застаўшыеся ў жывых зняволеныя канцлагераў з каманд па вырабу фальшывых грошай. Вызваліўшыся з лап эсэсаўцаў, яны рабілі ўсё, каб раскрыць тайну самай вялікай у сусветнай гісторыі аперацыі па падробцы грошай, што была ажыццёўлена нацысцкай службай бяспекі. Многія з былых вязняў ужо тады далі амерыканскім афіцэрам падрабязныя звесткі, назвалі імёны злачынцаў з СД.

Толькі нечакана хуткаму ўступленню амерыканскіх войск 5 мая 1945 года зняволеныя асобай каманды, якія да таго часу былі пераведзены ў лагер Эбензее (асноўны лагер Маўтхаўзен) у Аўстрыі, абавязаны тым, што СД не ўдалося прывесці ў выкананне свой намер знішчыць іх.

У паліцэйскае ўпраўленне Гаагі з'явіўся былы зняволены — галандзец, зняў чаравік, адарваў падэшву і дастаў падробленыя фунты стэрлінгаў, якія шмат месяцаў захоўваліся пад ёй. Чэшскі вязень Аскар Скала на сфатаграфаванай з 20-разовым павелічэннем купюры паказаў камісіі памылкі, якія былі характэрныя для „папяровай зброі" фальшываманетчыкаў з фашысцкай службы бяспекі.

Адзін з выпадкова ўцалелых вязняў, якіх IV упраўленне галоўнага ўпраўлення імперскай бяспекі накіроўвала ў асуджаныя на знішчэнне каманды па вырабу фальшывых грошай, Петэр Эдэль, асабіста з'явіўся ў Нюрнберг і пад прысягай даў амерыканскаму трыбуналу наступныя паказанні:

„27 студзеня 1944 года ў канцэнтрацыйным лагеры Аўшвіц (Асвенцім) штурмбанфюрэр СС Кругер абавязаў мяне выконваць работу, аб характары якой я не меў тады ніякага ўяўлення. У пачатку лютага 1944 года я разам з некалькімі іншымі зняволенымі быў адпраўлен у канцлагер Заксенхаўзен. Пасля чатырохтыднёвага каранціну мы былі пераведзены ў блок № 19, дзе штурмбанфюрэр Кругер адкрыў нам, што ў гэтым блоку вырабляюцца фальшывыя грошы. Ён паведаміў нам, што за разглашэнне (у тым ліку і зняволеным лагера, якія знаходзяцца па-за гэтым блокам) усяго таго, што адбываецца ў блоку № 19, чакае пакаранне смерцю.

*(Працяг будзе)*

# ТРЫБУНА чытачоў

## Да адукаваных

(Працяг са стар. 5)

У гэтым надкрытычным становішчы не бачу неабходнасці. Гэта вынік абыякавых адносін да паэзіі, дзе моднічанне бярэ верх над развагай і розумам.

Не іначай, усе мае вывады так памогуць дзелу, як памёршаму кадзіла. Найхутчэй, я адзін з неадукаванага асяроддзя выказаў такія думкі. Як мы, неадукаваныя сяляне, не здольныя (паводле В. Шведа) пранікнуць ва ўнутраны свет яшбурскай паэзіі, таксама і вы, адукаваныя, не маеце паняцця, як цяжка мне з маёй малаграматнасцю складаць гэты агляд. Але мая любоў да свайго народу, неабыякавасць да яго культурных вартасцей, наказвае не лічыцца ані з цяжкасцямі, ані са скуткамі.

**Дзядзька Квас**

## За тры дні святліца

У вёсцы Шчасновічы, Шудзялаўскай гміны, грамадскім чынам жыхары вёскі пабудавалі за тры дні святліцу. Як гэта сталася? Новы солтыс Дамінік Паніквіцкі і радны ГРН Тадэвуш Кажанкоўскі рашылі пабудаваць святліцу ў Шчасновічах. Ды ад чаго пачаць? Вёска малая — 27 гаспадароў і з гэтых палова жыве на хутарах, а ёсць некалькі пенсіянераў. Рашылі сабраць складчыну па 500 зл. з гаспадара і сабралі грошай больш 13 тысяч.

Купілі тоўстыя пільснёвыя пліты, інтэрнітовую дахоўку, дрэва. А з працай не было бяды — усе ішлі працаваць, старыя і маладыя. Толькі сам солтыс 6 разоў ездзіў у лес па калодкі. Пілаваць пілавалі на крайзэгах і за гэта людзі нічога не бралі. Замала аказалася складчыны. Дазбіралі яшчэ. Такім чынам і пабудавалі святліцу за тры дні, а было гэта ў той час, калі садзілі бульбу.

**Гіль**

## Слова паляціць зямлёю

Хто ехаў з вас, чытачы, з Гайнаўкі ў Белавежу, бачыў, што праз усю пушчу побач шашы бегла слуповая тэлефанічная лінія, якая спалучала нашу турысцкую мекку з Гайнаўкай і ўсім светам. Колькі было работы тэлекамунікацыйнаму ўпраўленню ў Гайнаўцы, каб утрымаць пастаяннае спалучэнне з Белавежай, — цяжка апісаць. Абы толькі невялікі вецер, адарвецца які сук, упадзе на провады — і сувязі няма. А калі бура дрэвы ламала, яны падалі на лінію, пашкоджвалі яе ў некалькіх месцах. Манцёры круглыя суткі працавалі і ўсё роўна не заўсёды сувязь была.

— Каб змяніць становішча, — гаворыць начальнік тэлекамунікацыйнай установы ў Гайнаўцы, Генрык Стончык, — ад вясны гэтага года гаспадарчым спосабам будуем каблёвую лінію. Тэлефонны кабель закладаем у зямлю. Каб гэта зрабіць, трэба было на ўсёй даўжыні ўручную выкапаць равок глыбінёй 80 см.

Працу гэту цяжка было б выканаць пры дапамозе сваіх людзей. З дапамогай прыйшлі сакратар КГ ПАРП у Белавежы П. Тарасевіч і дырэктар Лясного тэхнікума Г. Макшыцкі разам з моладдзю тэхнікума і настаўнікамі. Яны працавалі пры капанні і засыпанні роўчыка. Кожны дзень актыўна працуюць манцёры з Гайнаўкі пад кіраўніцтвам Яна Пажэзінскага. Работа набліжаецца да канца. Гэтакім чынам удалося заашчадзіць некалькі соцен тысяч злотых.

**Э. Вайсковіч**

## Параўнанне

Ужо прыйшоў я да вываду, што рэцэпту на тое, каб аўтобусы ў нас ездзілі па плану, ніхто не знойдзе. Цяжка пералічваць, як нерэгулярна яны ездзяць. Вось, напрыклад, той, які едзе ў Бельск праз Дубічы Царкоўныя (калі трэба, яго няма), і той, які з Кляшчэляў у Гайнаўку з раніцы, і той, які праз Палічну.

Думаю, што аўтобусы ў нас ніколі не будуць хадзіць так, як паязды. Чыгуначнікі куды лепш пільнуюць свайго парадку, чым пэкаэсаўшчыкі. На ПКП у нас ніхто цяпер не наракае.

**М. Панфілюк**

## Тыдзень працы вясковай прадаўшчыцы

Вядома, што ў летні час вясковыя крамы адкрыты так, як гэта выгадна людзям. Я падам прыклад крамы з вёскі Белкі, Нараўскай гміны.

Крама адкрыта ад 6 да 10 гадзіны раніцы і ад 17 да 20.30 вечара. Пастаўка тавараў у краму адбываецца штодзённа на працягу цэлага тыдня: у панядзелак прывозяць спажывецкія і прамысловыя тавары з Гайнаўкі, у аўторак — хлеб і піва ды ліманад, у сераду — малако і рыбу, у чацвер — хлеб, у пятніцу — малако і рыбу, у суботу — хлеб. Пастаўка гэтых тавараў рэдка адбываецца ў гадзінах працы прадаўшчыцы, а пераважна пасля 12 гадзіны, калі яна, як усе ў вёсцы, працуе ў полі. За гадзіны, якія чакае прадаўшчыца тавара, ёй не плацяць. Калі яна выйдзе памагчы ў полі, дык не хочуць пачакаць, пакуль нехта накажа і яна прыбяжыць. Гэтак здарылася ў пятніцу 30 чэрвеня з півам і ліманадам. Шафёр не пачакаў і паехаў.

Людзі гавораць, што ў гэтай справе нешта трошкі недапрацавана. Хлеб, напрыклад, дастаўляюць у гадзінах працы прадаўшчыцы. Чаму нельга гэтага рабіць і з іншымі таварамі? Гандаль на вёсцы мае свае правы, і трэба з ім лічыцца.

**М. Лук'янюк**

## Гайнаўскія рамеснікі

Новая дзяржаўная пастанова аб рамястве адкрыла вялікія магчымасці для ўсіх рамеснікаў. Як яе выкарысталі гайнаўскія рамеснікі? Кіраўнік цэху Лідзія Панько кажа: „Цэх розных рамястваў у Гайнаўцы ахоплівае сваёй дзейнасцю ўвесь былы Гайнаўскі павет і на канец 1977 года меў 439 майстэрняў, у якіх працавала 600 рамеснікаў, у тым ліку 80 вучняў".

У рамесных майстэрнях Гайнаўкі можна выканаць любую работу. Найбольш майстэрняў, аж 129, будаўнічых. Таксама 129 — звязаны з драўніннай прамысловасцю, 38 — з металёвай, 33 — кравецкія майстэрні, у 26 прадукуюцца будаўнічыя матэрыялы, 15 — шавецкіх.

Цэх праводзіць навучанне рамеснікаў. У 1977 годзе дыпломы майстра атрымала 49 асоб, а дыпломы чаляднікa — 89 асоб. Хто мае, як кажуць, „залатыя рукі", можа здаваць экзамен экстэрнам.

Гайнаўскія рамеснікі актыўна ўключаюцца ў розныя грамадскія чыны. Аляксандр Кандрацюк зрабіў для школы кіі для траспарантаў з уласнага дрэва — вартасць 6 тысяч зл., Юзэф Савіцкі ўставіў сеткі да вокан у драўляныя рамкі з уласнага матэрыялу, а Косця Арэхоўскі наладзіў лаўкі на прыпынку ПКС.

11 рамеснікаў 144 гадзіны працавалі пры пабудове ясляў, 56 гадзін — пры пабудове прадшколля. Жаданне наша, каб гайнаўскі рамесны цэх развіваўся ўсё больш, каб яго абароты ўзрасталі да соцен мільёнаў злотых.

**Э. Вайсковіч**

## У Гайнаўцы 1980 г.

Гайнаўка шырока разбудавалася і разбудоўваецца далей. Расце ўшыр. Граніца горада з поўначы на поўдзень мае 7 кіламетраў, а з усходу на захад — 5 км. Гэта ўжо не малая адлегласць. Таму ў кожным доме ў Гайнаўцы ёсць нейкі сродак транспарту — ровар, матаролер, матацыкл ці самаход.

У цэнтры Гайнаўкі рух, як на Ліповай у Беластоку. Ужо трэба моцна зважаць, каб не падлезці пад нейкі матор. А штогод прыбывае новых машын, бо людзям штораз менш хочацца хадзіць пехатой.

Звярнуўся я да намесніка начальніка горада мгр Уладзіміра Мусько з пытаннем, якая перспектыва гарадской камунікацыі? Паводле перспектыўнага плана, у 1980 годзе ў Гайнаўцы будзе ўведзена гарадская аўтобусная камунікацыя. За гэтыя два гады, якія засталіся яшчэ, горад павінен падрыхтавацца да такой змены. Трэба парабіць прыпынкі, перабудаваць некаторыя вуліцы, пабудаваць стаянкі для аўтобусаў.

**Э. Вайсковіч**

## Добрыя і адмоўныя бакі клуба

Клуб прэсы і кніжкі „Рух" у вёсцы Грабавец, Дубіцкай гміны, мае немалыя дасягненні. Гэта найбольшая заслуга гаспадара клуба Любы Пракапюк, якая ўжо даволі доўга тут працуе. У клубе чыста, многа розных тавараў, летам ліманад, газіраваная вада не выходзяць, а гэта вельмі важна на вёсцы.

Клуб змяшчаецца ў прасторным будынку, які некалькі гадоў таму назад жыхары купілі ў гаспадара ў адной вёсцы і перавезлі ў Грабавец, паставілі па-суседску з мясцовай школай. Моладзь часта арганізуе ў клубе вечарынкі з танцамі. Тут не ўпіваюцца, бо нават і піва забаронена прадаваць, а толькі ліманад і іншыя сокі.

Аднак ёсць і адмоўныя бакі і гэта не па віне прадаўшчыцы. Ад вуліцы каля самага будынка ляжыць немалая горба вугалю, які калісьці выгрузілі для топліва. За клубам ззаду пабудаваны драўнічок. Але да яго нельга дабрацца, бо агароджаны ён школьнай сеткай і лічыцца ўжо школьнай уласнасцю. Ніхто не асмельваецца хадзіць у школьны свіран. Панадворак клуба не агароджаны, хаця відаць яшчэ фрагменты сеткі з паіржавелага дроту. Пляц гэты належаў некалі да школы і гэта астанкі школьнай сеткі. Усе гэтыя недахопы вельмі лёгка ліквідаваць. Усё залежыць ад энергіі моладзі вёскі, якая як мага хутчэй павінна прыняцца за ўпарадкаванне панадворка вакол свайго клуба.

**М. Панфілюк**

## Гарод для бальніцы

У гайнаўскай бальніцы заўсёды знаходзіцца звыш 500 чалавек хворых. Іх штодзень трэба накарміць. Не заўсёды можна купіць, што трэба. А лекары прыпісваюць розныя дыэты. Каб памагчы хворым і бальнічнаму персаналу, гайнаўскі ЗОЗ пашырыў працу свайго гаспадарчага аддзялення. Яны пабудавалі хлеў, дзе вядзецца адкорм свіней для бальнічнай кухні. Пабудавалі шклярню і паставілі тры тунелі з фоліі. Вельмі ранняй вясной маюць ужо свае агуркі, памідоры, салат, цыбулю, радыску.

ЗОЗ прыняў на працу добрага агародніка — Храбалоўскага Станіслава, які з году ў год пашырае сваё каралеўства для дабра хворых. Ён нават выдраў каля бальніцы адлог, які так вырабіў, што пасадзіў тут капусту. Апрача памідораў у шклярнях, садзяць некалькі тысяч кустоў грунтовых, з якіх ЗОЗ карыстаецца цэлае лета і ўвосень.

**Вірскі**

## Меліярацыя

У Дубічах Царкоўных усе галоўныя лугі ляжаць каля самай вёскі і ва ўрочышчы „Жарывэц", на ўсход ад Дубіч Царкоўных, былі меліяраваны ўжо даўно, недзе ў другой палове пяцідзесятых гадоў. Равы гэтыя капаліся яшчэ ўручную, і таму яны плыткія, а за столькі часу моцна зараслі. Сёння ў многіх месцах на лугі вяртаецца зноў дрыгва і ў часе сенакосу трактары з касілкамі тут страгнуць.

Што рабіць? У многіх месцах гэтыя равы не спаўняюць ніякай карыснай ролі, але сяляне плацяць за іх догляд. Варта, каб улады зацікавіліся гэтай важнай справай: равы трэба грунтоўна і генеральна адрамантаваць. Іншая справа адносна равоў. Некаторыя выкапаны не ў тым месцы, дзе трэба (нехта тады няўмела іх запланаваў), ідуць яны высокім месцам, а не сярод балота. Каб гэта ўбачыць, не трэба быць спецыялістам.

**М. Панфілюк**

## Па-мойму, дрэнна!

Бельская СКР дрэнна высылае позвы на заплату за выкананыя сельскагаспадарчыя паслугі. Вось для прыкладу: я атрымаў позву заплаціць да 28 мая. Але атрымаў яе 30 мая. Паспрабуй, заплаці на час. А кааператыўны банк у сваю чаргу бярэ дадатковую аплату за спазненне.

**Кірылюк Міхал**

## Як купляюць жывёлу?

У Храбалах у кожную пятніцу вядзецца скупка жывёлы. Вялася яна і 7 ліпеня, але ішло ўсё дрэнна, бо дрэнна важылі свіней. Пасля апамяталіся і сталі пераважваць, ганяць то на вагу, то з вагі. Даганяліся, што адну свінню трэба было дабіць.

А кароў павінны па плану прымаць у 11 гадзін, а цяпер, калі я гэта пішу, ужо гадзіна 13-ая, а каровы стаяць, а людзі чакаюць. Родненькія, міленькія, калі ж парадак будзе?

**Кірылюк Міхал**

## Ці ж гэта справядліва?

Летам гарачы час для сялян, і работы па вушы. Кожны стараецца больш цяжкую працу выканаць машынай. Таму пляц дубіцкай СКР ад самай раніцы ўжо запоўнены людзьмі. Кожны стараецца запісацца ў чаргу на паслугу. Кіраўнік — чалавек добрасумленны і гаспадарлівы, і цяпер куды лепшы парадак у машынным парку, чым быў калісьці.

На пляцы чакае многа людзей з вёскі Ягаднікі, Дубіцкай гміны, якія маюць уласныя трактары і патрэбныя да іх машыны. І яны запісваюцца на паслугу ў СКР і дастаюць яе ў першую чаргу, бо яны спецыялізаваныя гаспадары. Дубіцкая гміна выдала такую пастанову, каб іх у першую чаргу абслужыць. Толькі ўзнікае пытанне, навошта ж яны пакуплялі трактары? Хіба з жонкай у госці ці на кірмаш ездзіць?!

Вядома, што ўласным трактарам не аплоціцца сёння выконваць цяжэйшыя працы. Навошта марнаваць сваю машыну, калі можна пазычыць у СКРы і каштаваць будзе танней. Усё гэта згодна з пастановай гміны. Але ці справядліва? Напэўна, не! Маем жа гаспадароў, якія ўласным трактарам яшчэ памагаюць суседзям. Сяляне з Дубіч Царкоўных, Грабаўца, Тафілаўцаў і іншых вёсак (якія не вядуць спецыялізацыі) па 5—6 разоў выходзяць на пляц, каб атрымаць касярку. І часта надарэмна, бо спецыялісты заўсёды маюць першынство.

**М. Панфілюк**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

7 ліпеня ў вячэрнія гадзіны ў Беластоку на вуліцы Гагарына „Фіят-125 п" наехаў на чалавека, які праходзіў у недазволеным месцы з правага боку. Чалавек быў цяжка паранены і ў бальніцы памёр.

А 8 ліпеня рана на скрыжаванні вуліц Шоса Паўночна-Абвадовая і Пшэндзальняная ў Беластоку матаролер стукнуўся ў „Зіл". Пасажыр матаролера быў забіты на месцы.

У апошні час здарылася многа пажараў. У Харашчэве ў гміне Мілейчыцы згарэла хата, накрытая саломай, у вёсцы Беразова-Сольнікі, гміна Пасвентнэ, таксама згарэла хата з прыбудоўкай, накрытыя саломай, у вёсцы Бжазова, гміна Ясвілы, згарэла драўляная хата і мураваная абора разам з інвентаром. Пажар гэты аказаўся грозны. У час яго згарэла бабуля — 76 гадоў, якая пайшла на гару, каб забраць свае рэчы. Таксама ў вёсцы Тапаляны згарэла стадола. Асцярожна з агнём!

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да заметкі „ПРЫДАЛІСЯ Б ДАШКІ", „Ніва" № 27/1166 ад 2 ліпеня 1978 года.**

**Адказвае: PRZEDSIĘBIORSTWO PAŃSTWOWEJ KOMUNIKACJI SAMOCHODOWEJ ODDZIAŁ OSOBOWY W BIAŁYMSTOKU.**

W nawiązaniu do notatki prasowej pt. „Przydałyby się daszki" z 27/1166 numeru tygodnika „Niwa" z dnia 2.07.1978 roku Przedsiębiorstwo PKS Oddział Osobowy w Białymstoku uprzejmie informuje:

Kryte przystanki typu „Ogonek" budowane są z funduszy Urzędów Gmin. Zatem Urzędy Gmin w Michałowie i Narewce winny wystąpić ze zleceniem budowy przystanków w miejscowościach: Plancie, Suszczy, Eliaszukach, Lewkowie Nowym, Lewkowie Starym i drugiej Plancie do Zarządu Przedsiębiorstwa Państwowej Komunikacji Samochodowej w Białymstoku, ul. Fabryczna 1.

Jednocześnie informujemy, że Oddział Remontowy PKS w Białymstoku, ul. Octowa 2 jest wykonawcą krytych przystanków na terenie trzech województw: białostockiego, łomżyńskiego i ostrołęckiego. W związku z tym realizacja budowy przebiega według kolejności otrzymywania zleceń w Urzędów Gmin.

**Zastępca Dyrektora d/s technicznych**
**Oddz. Osobowy PKS w Białymstoku**
**inż. Antoni Lewicki**

# Нашы хатнія сябры

Чалавек даўным-даўно пасябраваў з сабакам: яшчэ з тых часоў, калі ў пячоры жыў. Сяброўства гэтае для чалавека мела вялікую карысць, бо сабака дапамагаў яму пазбаўляцца ад няпрошаных гасцей. Пячора ж дзвярэй не мела, у яе мог зайсці любы драпежны звер і прычыніць чалавеку непрыемнасці. Крыху пазней, гадоў гэтак праз паўмільёна, калі пячора набыла больш-менш утульны выгляд, дзеля таго, каб мышы не псавалі мэблю, чалавек пасябраваў і з катом.

Мінулі шматлікія тысячагоддзі, і чалавечае жыццё непазнавальна змянілася. Цяпер мы жывём у шматпакаёвых пячорах на вышыні, на якой ніколі не жыло ні адно з чалавекападобных.

Але хатніх жывёл усё роўна трымаем.

Вядома, я як на дзівакоў гляджу на тых людзей, якія трымаюць зараз у доме ката. Ну, якая ад яго карысць? Хоць ад звычайнага, хоць ад сібірскага, хоць нават ад сіямскага. Лепш за ўсіх іх з мышамі цяпер распраўляецца гарадская санэпідэмстанцыя. Зусім іншая справа сабака! Нават самы маленькі недаросцік сабачага роду-племені можа такую звягу ўзняць, што вы адразу ўбачыце, наколькі выгадна яго трымаць. Калі ж вы прыдбаеце аўчарку ці бульдога, дык не сумнявайцеся, карысці будзе яшчэ больш.

А некаторыя кемлівыя людзі ў апошні час пачалі трымаць дома драпежных жывёл: хто ваўка, хто льва, хто тыгра. Нават кракадзілаў трымаюць. Я ж асабіста быў прыручыў маладзенькага пітона. Затым ён вырас і калі выцягваўся ўдоўж, дык нават не змяшчаўся ў адным пакоі. Але я яго зусім не баяўся і цалкам яму давяраў. Іншы раз нават спаў побач.

Дык навошта, вы думаеце, я трымаў у кватэры ўдава? Дзеля забавы? Зусім не! Яно, вядома, прыемна, калі цябе ў абдымачку з вялізным пітонам змяшчаюць у газетах і пры гэтым называюць сябрам жывёл. Толькі справа не ў гэтым. Галоўная карысць ад майго паўзуна была ў тым, што ён дапамагаў мне пазбаўляцца гасцей. Раней у мяне быццам і не кватэра была, а нейкая гасцініца. Не паспее адгасціваць цётка з Петухоўкі, як стрыечны брат прыязджае. Ды не адзін, а з жонкай і дзецьмі. Не паспее паехаць той брат, як які-небудзь сват з'яўляецца. Іншы раз па тры-чатыры чалавекі гасцявалі адначасова. А потым ніводнага не стала, вось як!

Але вы, магчыма, думаеце, што я на каго-небудзь нацкаваў таго ўдава? Вядома, не. Я толькі разаслаў усім сваякам і знаёмым здымак, на якім я з ім у абдымачку сфатаграфаваны.

**Рыгор Лазуркін**




— *Хіба так стукаюць?! Во як трэба!..*

# НІЎКА




## ПАД ПАРАСОНАМ



*І робатам не чужое чалавечае.*

## ВОПЫТ

Начальнік Задрыпчук павучае маладога службоўца:

— Дарма вы хвалюецеся па любой прычыне. Галоўнае — помніць, што дзевяноста працэнтаў усіх пытанняў рашаюцца самі сабой, а рэшта проста невырашальныя!

## НА ФУТБОЛЬНЫМ МАТЧЫ

— Гэтаму новаму леваму фарварду не хапае ўсяго двух рэчаў, каб гуляць проста цудоўна.

— Якіх жа?

— Ног і галавы.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Шатландзец прыйшоў у пральню, каб атрымаць бялізну.

— З вас тры шылінгі, — гаворыць касірка.

— Чаму тры? — перапытаў ён. — Вы ж казалі, што за мыццё кожнай піжамы бераце па шылінгу. А я здаў вам дзве піжамы.

— Гэта так, — адказала касірка, — але дадаткова шылінг вам неабходна заплаціць за каўнерыкі і шкарпэткі, якія вы паклалі ў кішэні.

*

У атэль уваходзіць вельмі пажылы чалавек у суправаджэнні вельмі маладзенькай жанчыны.

— Добры дзень, сэр, — пакланіўся яму парт'е. — Мы падрыхтавалі вам двайны нумар для вас і вашай дачкі.

— Вы што не бачыце, — разгневаўся джэнтльмен, — што я задужа стары, каб мець такую маладзенькую дачку! Гэта мая жонка!

*

Маці: Калі гэты хуліган кідае ў цябе каменне, чаму ты адказваеш яму тым жа, замест таго, каб прыйсці і сказаць мне?

Сын: Ды што табе гаварыць, калі ты не можаш пацэліць нават у сцяну гаража.



**Узяў бы сябе ў рукі, ды не хоча рук пэцкаць.**

## ЗАЙЗДРАСЦЬ

— Чаго радуешся? Можа, твой перастаў піць? — пытае Маня Насцю.

— П'е, але ўжо не гарэлку... Лекі.

— Якая ж ты шчаслівая! Калі ж гэта я гэтага дачакаюся?..

## ПАРАІЛА

Дачка да маці:

— Мама, што лепш: паступаць у інстытут ці выходзіць замуж?

— Выбірай тое, на чым не правалішся.

## ГУМАР З БАРАДОЮ



— Гэта ты ўкраў сасну ў лесе?

— Зусім не я, я шчыра прызнаюся вам, як было: ехаў я праз лес, і тут мая вось зачапілася за дрэва, а тое дрэва ды й зламалася і — бразь на воз. Што было рабіць? Дрэва цяжкое — я адзін не скіну, ну і дацягнуў да хаты.

## ТРЫМАЙЦЕ ВУХА?

*Каму прысвячаецца-той здагадаецца*

## НУЛІ

Надоечы сабраліся  
Нулі і сталі ў рад,  
А стаўшы, заспрачаліся:  
Чаго з іх кожны варт.

— Го-го, го-го! Правінцыя!  
Гудзе, як гучны звон: —  
Хіба раўня адзінцы я,  
Я... кругленькі мільён!

Я сотні растасоўваю,  
Нібы калоды карт!..  
— Ты?! Ты на сотні плёваеш? —  
Угневаўся мільярд.

Маўчы, маўчы лепш, выскачка,  
Ды знай сабе цану!  
Мне падавай вас тысячы —  
Глыну і не міргну!

— Ах так! — Більён не  
вытрымаў. —  
Хіба ж раўня вы мне?  
Не ўдасца ваша хітрасць вам! —  
Ды тут іх як пугне:

— Вы, бесцані, забыліся,  
Хто я?  
Мне з вас любы —  
У падмёткі... —  
І счапіліся  
За гонар свой ілбы.

— Дык на ж табе! — ў істэрыі  
Крычаць, і кухталі  
У парыве фанабэрыі  
Нулям даюць нулі.

Ды так развазваліся  
Яны паміж сабой,  
Што ўміг пераламалі ўсе  
Адзінкі — козыр свой.

Як глянулі ў развазнасці —  
Аж слёзы паплылі:  
Ні велічы, ні важнасці...  
Бо што яны — нулі?..

**Алесь Бачыла**

## ПЕСНІ НА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Вольгі Карчэўскай і Люцыны Базылюк з Клейнік, а таксама Анелі Грыгарчук з Агароднік змяшчаем песню

## Oddam wszystko, co mam

**śpiewają Lucyna Owsińska i Jacek Lech**  
**słowa: Wojciech Jagielski**  
**muzyka: Andrzej Januszko**

Ledwie dłonie mi ogrzała,  
pierwszy świt  
oknem wpadł,  
wiatrem z nagła uleciała  
w światło dnia,  
w ulic gwar.

Oddam wszystko, co mam,  
byle ją  
znowu mieć,  
byle jasną jej twarz  
pomiędzy ludźmi  
dojrzeć gdzieś.  
Oddam wszystko, co mam,  
byle być  
blisko niej,  
jest w niej radość i żart,  
zwyczajna miłość,  
szukam jej.

Jeśli wpadnie choć na chwilę,  
stanie w drzwiach,  
zdejmie płaszcz,  
chętnie serca jej uchylę  
jeszcze raz,  
jeszcze raz.

Oddam wszystko, co mam...



— *Нарэшце рашэнне знойдзена!*

## ПАТЫЛІЦУ БАЧЫЎ...

— Сымон, кажуць, што ў цябе жонка прыгажуня?

— Не ведаю. Не разгледзеў.

— Як не разгледзеў? За тры гады жыцця?

— А так. Я толькі патыліцу яе і бачу. Калі б дадому пад „градусам" не прыйшоў, яна, праклятая, дзверы адчыніць, павернецца адразу і ў пакой. Нават спіць тварам да сцяны. Вось так я толькі патыліцу яе і вывучыў.




## ПЕРАКВАЛІФІКАВАЎСЯ

Амерыканскі баскетбаліст Кліфард Рэй удастоіўся гонару стаць на некаторы час хірургам. Адбылося гэта дзякуючы ўнікальнай даўжыні яго рук — 114 сантыметраў, якія зрабілі яго незаменным пры лячэнні дэльфіна, які праглынуў металічны прадмет. Рукі ветэрынараў аказаліся занадта кароткімі, і ім нічога не заставалася, як запрасіць даўгарукага Рэя, які без цяжкасці выцягнуў пабочнае цела са страўніка неразборлівага дэльфіна.

## „ДАВАЙЦЕ ЛІЧЫЦЬ"

Сенсацыйны вынік даследавання, абвешчаны ў Бірмінгеме на канферэнцыі брытанскай асацыяцыі па пытаннях адукацыі для дарослых, ашаламіў многіх. Высветлілася, што мільёны англічан не могуць зрабіць нават простых падлік. Тэлевізійныя інтэрв'ю з жыхарамі шэрагу гарадоў на поўначы краіны — наглядное гэтаму пацвярджэнне. На пытанне, колькі сяміпенсавых паштовых марак можна купіць на адзін фунт стэрлінгаў, адказалі няправільна ўсе апытаныя. У якасці тэрміновай меры на канферэнцыі было прапанавана стварыць 13-серыйную тэлевізійную праграму „Давайце лічыць", якая ў папулярнай форме будзе знаёміць дарослых з азамі арыфметыкі і геаметрыі.

## ДОБРЫ СПОСАБ

У Віктара Гюго была тэрміновая работа. Каб прымусіць сябе выканаць яе, пісьменнік абстрыг напалавіну галаву і бараду, а ножніцы выкінуў на двор. Пакуль адрасці валасы, Гюго паспеў закончыць работу ў вызначаны тэрмін.




**Дзіўна: якраз той, хто не задзірае галавы, і бывае на галаву вышэй за іншых.**